



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 канал(а) ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

2 чэрвеня 2017 года №22 (1153)


# Маці траіх дзяцей выйшла замуж у касцюме эльфійкі

Старонка 20

Фота забяспечанае Марыяй ШЭБАНЕЦ.



## Ветэрынарны фельчар распавядае, колькі зарабляе і як траціць грошы

старонка 3

## Як дзве мамы зладзілі бясплатны кірмаш

старонка 8

## Ці сапраўды ў парку ў Маладзечне траву выпальваюць хімічнымі сродкамі?

МАЛАДЗЕЧНА

У рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты" звярнуўся чытач. Мужчыну клапоціць тое, што ў цэнтральнай частцы парку трава зялёная, а вось за мемарыяльным комплексам у гонар вызваліцеляў нібы выпаленая хімічнымі сродкамі, бо пажаўцелая і сухая.

Мужчына пытаецца, ці сапраўды траву такім чынам выпальвалі, каб не касіць, ці гэта звязанае з іншымі прычынамі.

– Траву ў парку толькі косяць, – адзначае начальнік парку культуры і адпачынку імя Перамогі **Аляксандр Фалей**. – Хімічныя сродкі для выпальвання травы не закупляліся, дамовы з арганізацыямі, якія пастаўляюць іх, таксама не заключаліся.

Прычыну таго, што трава пажаўцела, Аляксандр Фалей бачыць у тым, што, магчыма, скошаную траву несвоечасова прыбралі. Напрыклад, скасілі і згрэблі ў адну кучу раніцай, а прыбралі толькі на наступны дзень альбо праз дзень. Як вынік, яна пачала прэць і засталіся лапікі.

– Летам бывае такое, што на выгляд здаровыя дрэвы падаюць, – расказвае начальнік парку. – Пры гэтым у спакойнае надвор'е, а не ў буру. Зімой, калі былі вялікія маразы, дрэвы трэскаліся, пасля аказвалася, што ўнутры яны пустыя.

Адну з прычын такіх з'яў Аляксандр Фалей бачыць у тым, што восенню апалыя лісты прыбіраюць, а значыць, парушаецца натуральнае існаванне дрэў, такое, напрыклад, як у лесе.

– Нават нязначнае ўмяшальніцтва ў прыроду прыводзіць да таго, што навакольнае асяроддзе пакутуе, – падводзіць высновы начальнік парку.

Сітуацыю патлумачыў таксама эколаг.

– Наколькі можна меркаваць, на фотаздымках дастаткова агрэсіўнае пустазелле – конскае шчаўе, – адзначае спецыяліст па арганічнай сельскай гаспадарцы Цэнтра экалагічных рашэнняў **Любамір Кляпач**. – Вось яго, хутчэй за ўсё, і хацелі знішчыць гербіцыдам. Бо скошаная трава, якая ляжыць на паверхні газона, не дасць такога эфекту нават на працягу тыдня слоем у 30 сантыметраў.

**Галіна СУДНІКОВІЧ, Аляксандра ПАРАХНЯ.**

## Што чакае віляйчан падчас фестывалю моладзевых субкультур "Энергія маладосці"

ВІЛЕЙКА

30 чэрвеня ў гарадскім парку ў Вілейцы пройдзе фестываль моладзевых субкультур "Энергія маладосці".

Ён пачнецца ў гадзіну дня з моладзевага канцэрта і фестывалю фарбаў Холі.

У дзве гадзіны дня будзе працаваць тэатральная пляцоўка, усе ахвотныя ўбачаць вулічныя імпрэзы ад тэатральных калектываў.

Аб'яднанне "ЗОВІК" арганізуе выставы "Хэнд-Мэйд" і майстар-класы па здароўым харчаванні.

Запланаваная работа ціра ад добраахвотнага таварыства садзеяння арміі, авіяцыі і флоту. Жадаючы змогуць пастраляць з пнеўматычнай вінтоўкі, пройдуць майстар-класы па зборцы аўтамата Калашнікава.

Аматары цыркавога мастацтва і фаер-шоу змогуць трапіць на майстар-класы і паказальныя выступленні па кручэнні пой і жангліраванні.

Для аматараў жывёл, асаблівa сабак, пройдзе майстар-клас ад кінолага па дрэсіроўцы сабак, паказальныя выступленні дрэсіраванай аўчаркі і конкурс сабачай моды.

Для аматараў экстрэмальнага спорту – спаборніцтвы і паказальныя выступленні па стрыт-воркаўту і скейтбордынгу.

Ад 21:00 да 23:00 – рок-канцэрт. У рамках Дзён устойлівай энергіі ад 22:00 будзе арганізаваная светлавая інсталяцыя святлодыёдных шароў, фаер-шоу і спецыяльная забава для ўсіх жадаючых – "Запалі ліхтар, круцячы педалі электрабайка".

23:00 – 01:00 – дыскатэка.

Таксама ў парку будзе арганізаваная работа арт-зон: выстава вулічнага мастацтва ад праекта Артгрузавік", "Фотасушка", "бодзіарт" і іншыя.

Цяпер можна падаваць заяўкі, каб стаць удзельнікам мерапрыемства.

Пра фестываль паведаміла арганізатар **Вольга Шляпо**.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**







**На памяці ў загадчыка фермы Ігара Рытэнкі такое здарылася ўпершыню, калі карова прывяла тройню.**

# На ферме ў Груздаве карова прывяла тройню першы раз ад 1989 года

МАЛАДЗЕЧНА

**Усе трое "нованароджаныя" – бычкі. І ў Груздаве такое здарылася ўпершыню за 25 гадоў.**

– На ферме я працую ад 1989 года, – расказвае загадчык комплексу **Ігар Рытэнка**, – і такое ў маёй практыцы ўпершыню. Двайняты нараджаюцца 4-5 разоў за год. А каб тройня, такога не было.

Мілцы, так завуць карову, УЗІ не рабілі, таму да апошняга не ведалі, што яна стане маці-гераіняй.

– Спачатку яна прывяла адно цяля, а потым дзяўчына-фельчар кажа, што яшчэ тырчаць ногі. І, як аказалася, не адны.

Звычайна цялят на ферме трымаюць 20 дзён, потым аддаюць на іншую ферму, дзе яны гадуюцца да таго часу, пакуль не стануць важыць каля 400 кілаграмаў. Аднак для тройні зрабілі выключэнне.

– У 20 дзён цяляты звычайна важаць кілаграмаў 30, а гэтых трое, яны больш дробныя.

Цяпер трайняты адчуваюць сябе добра. Двое жывуць у адным вальеры, адзін – асобна. Бо траім яны месца мала. Цяпер яны важаць 22 кілаграмы. У штодзённым рацыёне ў цялят – соль, камбікорм і малако тры разы на дзень.

– Будуць важыць каля 50 кілаграмаў, перададзім на іншую ферму. Там таксама дзяўчаты харошыя працуюць, будуць даглядаць сумленна.

А вось пасвіцца на ферме не выпускаюць ні цялят, ні кароў.

– У нашым статку сёння 482 галавы. І калі іх выпускаць на пашу, то для гэтага патрабуецца каля 10 пастухоў. У нас жа корміць кароў адзін трактарыст.

У каровы Мілкі гэта ўжо пяты ацёл, да гэтага карова прыводзіла толькі па адным цяляці.

– Як правіла, у кароў на ферме мянушак няма, але здараецца, што ў работнікаў фермы знаходзяцца свае ўлюбёнцы. Наша Мілка вельмі ласкавая карова, таму так і назвалі. Ёсць у нас яшчэ і Красуліна. Бо прыгожая.

Каровы на ферме толькі чорна-белыя, пярэстыя.

– Гэта галандская парода.

У маі на ферме "Груздава" нарадзілася 43 цяляці.

А каровы з цялятамі разам знаходзяцца толькі дні два, потым іх зноў адпраўляюць у агульны статак даваць малако.

Адна карова, расказвае Ігар Рытэнка, за раз дае па 15-18 літраў малака.

А вось хто тата нованароджаных бычкоў – невядома.

– Насамрэч, мы можам адсачыць па базе, хто менавіта стаў іх бацькам. У нас на ферме толькі штучнае асемяненне. Існуюць такія правілы, каб не дапусціць сваяцкіх сувязяў. Аднак дакладна, што бацька нашых цялят – гэта або канадзец, або галандзец.

**Фота аўтара.**



**Наталля ТУР**
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99

# "З абсталявання ў ветэрынара толькі рукі, вочы і галава"

## Ветэрынарны фельчар распавядае, колькі зарабляе і як траціць грошы

МАЛАДЗЕЧНА

**Лячыць нашых чацвераногіх сяброў, а тым больш даглядаць за статкам буйной рагатай жывёлы – справа не з лёгкіх. Колькі ж зарабляюць такія спецыялісты і ці атрымліваецца на гэтыя грошы ўтрымліваць сям'ю?**

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" распавёў Віталь, ветэрынарны фельчар з Маладзечанскага раёна.

### "Часам пад маім наглядам 1500 жывёл"

Віталь працуе ўжо амаль чатыры гады. Ён даглядае за буйной рагатай жывёлай – дойнымі каровамі, бычкамі і цялятамі ад самага нараджэння. Колькасць жывёл заўсёды розная. Часам, калі калегі ідуць на бальнічны ці ў адпачынак, статак налічвае да 1500 галоў.

Агулам спецыялісты з ветэрынарнай адукацыяй могуць працаваць не толькі ў клініках і сельскай гаспадарцы. Патрэбныя яны ў мытнай службе, на мясакамбінатах і малаказаводах, а таксама на рынках і ў лабараторыях рыбгасаў.

Віталь пакуль працуе фельчарам, але паралельна павышае кваліфікацыю, каб давучыцца да доктара. Замяняць на працы ветэрынараў ужо даводзілася, таму пэўная практыка ёсць, аднак заробак пры гэтым застаецца на ўзроўні фельчара, дадае мужчына.

За сваю працу Віталь атрымлівае ў сярэднім 500 рублёў – з усімі прэміямі і надбаўкамі.

– Вядома, заробак не надта добры, – кажа ён. – За мяжой за нашу працу плацяць ледзь не ў 50 разоў болей. Але я да яе прывык, прафесія цікавая. Заўсёды развіваешся і даведваешся нешта новае. Хаця ёсць і іншыя мінусы. Напрыклад, тое, што ветэрынары заўсёды вінаватыя, на іх прасцей за ўсё скінуць усе праблемы ў гаспадарцы.

**Як ветэрынарны фельчар размяркоўвае заробак у 500 рублёў**

20% бензін
20% ежа
21% камуналка, сувязь
7% крэдыт
32% сям'я

Інфаграфіка Аляксандры ПАРАХНІ.

### Пятая частка заробку ідзе на бензін

Працоўны дзень спецыяліста пачынаецца з абходу памяшканняў, дзе трымаюць жывёлу, і апытання жывёлагадоўцаў. Трэба запоўніць усе неабходныя паперы, часам зрабіць вакцынацыю.

– Звычайна ў месяц у мяне 28-30 працоўных дзён, адзін выхадны на тыдзень, і то не заўсёды, – кажа фельчар. – Бывае, што працую па 10-12 гадзін, бо трэба прыехаць раней або затрымацца ўвечары. Але ў табель усё роўна ідуць стандартныя 8.

> **З-за частых паездак па раёне мужчыну даводзіцца карыстацца ўласнай машынай і траціцца на бензін. Яго кошт не кампенсуецца, а ў працадаўцы даць машыну няма магчымасці.**

Рабочы аўтобус, якім можна карыстацца, ездзіць па сваім раскладзе, які часта не пасуе Віталю.

– Здараюцца і начныя выклікі, – дадае мужчына. – Тады таксама еду на сваім транспарце. У месяц на бензін ідзе каля 100 рублёў. І гэта без уліку рамонту, які час ад часу патрэбны машыне, страхоўкі і тэхагляду.

Камуналка і інтэрнэт цягнуць на 75 рублёў у месяц, яшчэ каля 30 рублёў ідзе на аплату мабільнай сувязі. Выплата крэдыту – 35 рублёў штомесяц. Каля 100 рублёў траціцца на ежу – чай, каву, крупы, макарону і іншыя прадукты. Тыя грошы, што застаюцца, ідуць на патрэбы сям'і – у Віталя ёсць жонка і дзіця.

### Начныя выклікі да сяброўскага сабакі – звыклая справа

Самае складанае ў працы ветэрынарнага фельчара, па словах мужчыны, – паставіць правільны дыягназ і прызначыць правільнае лячэнне.

– Жывёла – не чалавек, не скажа, дзе і што ў яе баліць, – тлумачыць Віталь. – Да таго ж у нас няма належнага абсталявання. Усё, што ў нас ёсць, – гэта рукі, вочы і галава.

Мужчына ўжо прывык, што ўсе сябры і знаёмыя закідваюць яго пытаннямі: што рабіць з сабачкам, як дапамагчы двароваму кату?

– Да такіх просьбаў і пытанняў настолькі прывыкаеш, што перастаеш раздражняцца, – кажа фельчар. – Ёсць і свае "пастаянныя кліенты". Нават уначы пазваніць могуць. Дапамагаю ім, вядома.

Ужо хутка Віталь скончыць навучанне і атрымае спецыялізацыю ветэрынарнага доктара. Гэта дазволіць працаваць у ветэрынарных клініках. Неабходны досвед мужчына ўжо назапашвае.

– Я свайму сабаку дома рабіў аперацыю, – кажа ён. – Таксама даводзілася ката зашываць. Шмат сам вучуся, чытаю літаратуру па тэме.

Калі б заробак быў большым і ў сям'і атрымлівалася б адкласці нейкую суму, то Віталь патраціў бы яе на новую машыну.

– І можа, пачаў бы будаваць свой дом дзе-небудзь за межамі горада, – дадае мужчына.

**Аляксандра ПАРАХНЯ**
**E- mail:** alesia.ptushka@gmail.com




| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 25.05 | 1.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,8527 | **1,8673** |
| Еўра | 2,0715 | **2,0881** |
| Злоты, 10 | 4,9430 | **5,0225** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2923 | **3,2936** |
| Грыўня, 100 | 7,0539 | **7,0966** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **24.05** | **31.05** |
| Еўра | 2.0600/2.0850 | **2.0600/2.0850** |
| Долар ЗША | 1.8400/1.8580 | **1.8550/1.8750** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 24.05 | 31.05 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,93 | **6,93** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,15 | **4,15** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,90 | **12,50** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,25 | **2,25** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,70 | **1,70** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,10** |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | **0,65** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,95 | **0,99** |
| Часнок, 1 кг | 6,49 | **5,95** |
| Капуста (маладая), 1 кг | 1,30 | **1,29** |
| Морква (маладая), 1 кг | 1,50 | **1,80** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,95 | **2,50** |
| Лімоны (маладыя), 1 кг | 4,49 | **4,49** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,95 | **2,69** |
| Мандарыны (маладыя), 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Радыска, 1 кг | 2,00 | **1,80** |
| Ківі, 1 кг | 4,65 | **4,35** |
| Буракі (маладыя), 1 кг | 2,50 | **1,95** |
| Памідоры, 1 кг | 2,95 | **2,95** |
| Агуркі, 1 кг | 1,60 | **1,69** |
| Перац, 1 кг | 6,00 | **5,95** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Вінаград, 1 кг | 4,80 | **4,95** |
| Клубніцы, 1 кг | 12,00 | **8,00** |
| Чарэшні, 1 кг | 15,00 | **7,50** |
| Персікі, 1 кг | 4,00 | **4,95** |
| Нектарыны, 1 кг | 6,00 | **5,20** |
| Абрыкосы, 1 кг | 5,00 | **4,95** |
| Бананы, 1 кг | 2,69 | **2,69** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,85 | **1,70** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 3,49 | **3,49** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | **1,20** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба (маладая), 1 кг | 2,00 | **1,80** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |


Фота Наталлі ТУР.

Падчас дня адкрытых дзвярэй можна было на сабе паспрабаваць працу судовага эксперта.

## Крыміналісты зладзілі паказальнае выступленне

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Дзень адкрытых дзвярэй правялі ў Маладзечне супрацоўнікі упраўлення дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз па Мінскай вобласці.**

Каля Палаца культуры можна было не толькі паглядзець, як працуюць крыміналісты, але і самім паспрабаваць зняць гіпсавы злепак нагі падазраванага, праверыць, паўдзельнічаць у працэдуры дактыласкапіі, праверыць, ці сапраўдныя грошы, адсачыць гісторыю машыны па нумары яе кузава, паспрабаваць скласці фотаробат злачынцы.

На пачатку сустрэчы пра асаблівасці працы ў камітэце судовых экспертыз расказаў намеснік начальніка упраўлення галоўны судмедэксперт па Мінскай вобласці **Сяргей Парфёнаў**.

Ён расказаў, што камітэт быў створаны 1 ліпеня 2013 года. І да яго 5-годдзя на базе Маладзечанскага міжраённага аддзела дзяржкамітэта судовых экспертыз будзе створаны музей.

Некаторыя экспанаты будучага музея ўжо былі паказаныя ў межах дня адкрытых дзвярэй. Гэта фотаздымкі з месцаў здарэння, заключэнні спецыялістаў, якія былі зробленыя 50-60 гаду таму, інструменты, з якімі працуюць судмедэксперты, фотаапаратура, мікраскопы і іншыя прыстасаванні.

Сяргей Парфёнаў расказаў, што, каб працаваць у камітэце, зусім неабавязкова заканчваць акадэмію МУС, дастаткова проста мець вышэйшую адукацыю.

Таму што ў камітэце працуюць людзі з рознай адукацыяй, ёсць як спецыялісты ў медыцыне, так і людзі з тэхнічнай адукацыяй, псіхолагі, почырказнаўцы.

Акрамя ўсіх відаў экспертыз, тут аказваюць цэлы шэраг платных паслуг насельніцтву. Самымі папулярнымі з іх з'яўляюцца праверка нумароў машыны пры пакупцы, а таксама псіхіятрычная экспертыза.

– Да нас звяртаюцца сваякі людзей, якія афармлялі спадчыну, бралі крэдыты, дарылі нерухомасць, каб праверыць, ці былі гэтыя людзі ў розуме на момант здзяйснення здзелкі.

Пасля выступлення Сяргея Парфёнава судовыя эксперты і прадэманстравалі сучасную тэхніку, з якой яны працуюць, і далі магчымасць кожнаму з прысутных адчуць сябе крутым экспертам-крыміналістам, які за пяць хвілін можа раскрыць злачынства.

**Наталля ТУР.**

**Шмат фота на сайце**







Фота Наталлі ТУР.

Аўтамабіль "Рэно" не знізіў хуткасць на скрыжаванні, а аўтамабіль "Хёндай" не паспеў завяршыць паварот налева.

# Аварыя ля "Спадарожніка": кіроўца "Рэно" не ехаў, ён нёсся

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Аварыя здарылася каля 17 гадзін у панядзелак, 29 мая. Жанчына-пасажырка "Рэно" знаходзіцца ў бальніцы з траўмамі.**

Аўтамабіль "Рэно" ехаў у бок горада Мінска з боку Смаргоні. На скрыжаванні ля гандлёвага цэнтра "Спадарожнік" кіроўца не палічыў патрэбным знізіць хуткасць і прапусціць аўтамабіль "Хёндай", які на жоўты сігнал святлафора заканчваў манеўр – паварочваў налева.

Расказаў пра гэта кіроўца "Хёндая":

– Вадзіцель "Рэно" не ехаў, ён нёсся. Мая машына важыць дзве тоны, а "Рэно" яе працягнула праз усё скрыжаванне. Пакуль выглядае, што вінаваты я, бо паварочваў налева, але на гандлёвым цэнтры стаяць відэакамеры. Думаю, у ДАІ, калі праглядзяць відэазапісы, разбяруцца, хто вінаваты.

Начальнік Маладзечанскай ДАІ **Дзмітры Юркевіч** пракаментаваў гэтую сітуацыю:

– Адно з асноўных правілаў дарожнага руху гучыць, што аўтамабіль, які паварочвае налева, абавязаны прапусціць усіх удзельнікаў дарожнага руху.

На месцы здарэння працавалі дзве "хуткія".

Першая машына забрала дзвюх пасажырак "Рэно".

– У якім стане пацярпелыя, нам невядома, – расказалі інспектары ДАІ, – "хуткая" з'ехала раней, чым прыехалі мы.

Назаўтра стала вядома, што вадзіцеля і адну з пасажырак адпусцілі адразу. Яшчэ адна жанчына-пасажырка засталася ў бальніцы, у яе ўдары ўнутраных органаў. Было падазрэнне на пералом рэбраў, але яно не пацвердзілася.

ДАІ нагадвае, што праягваецца акцыя "Увага – дзеці!". І да 5 чэрвеня ДАІ просіць кіроўцаў рухацца ў светлы час сутак з уключаным бліжнім святлом фараў.

**Наталля ТУР.**

## У Алёхнавічах трое маладых мужчын абрабавалі адзінокага пенсіянера

**МАЛАДЗЕЧНА**

Усё пачыналася з сумеснага распівання спіртнога. 23 мая тры непрацуючыя жыхары Алёхнавічаў выпілі і ўварваліся ў хату да знаёмага пенсіянера-аднавяскоўца.

Прымяняючы гвалт, яны забралі ў пенсіянера электралобзік, шрубавёрт, 62 рублі і прадукты.

У той жа дзень пацярпелы патэлефанаваў у міліцыю. Увечары хлопцаў затрымалі. Пенсіянеру вярнулі інструменты, часткова грошы і прадукты.

Двум затрыманым – 27 гадоў, аднаму 24. Усе яны нідзе не працуюць.

Пра гэта расказаў старшы следчы маладзечанскага Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**.

## Здарэнне на Вілейшчыне: сама парэзала мужа, сама выклікала "хуткую"

**ВІЛЕЙКА**

У суботу ўвечары ў Язнях 44-гадовая жанчына парэзала мужу шыю, зачапіўшы сонную артэрыю.

Пачалося ўсё з бытавой сямейнай сваркі. Жанчына была цвярозая, а 47-гадовы муж ужываў спіртное.

У час сваркі ў руках жанчыны аказаўся нож, якім яна разанула мужа па шыі. Злева на шыі ў мужчыны рэзаная рана, пашкоджаная сонная артэрыя.

Убачыўшы кроў, жанчына сама выклікала "хуткую" для мужа. Параненага забралі ў бальніцу.

Цяпер мужчына знаходзіцца ў цяжкім стане. На жанчыну завялі крымінальную справу.

Пра гэта расказаў начальнік вілейскага раённага аддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Не ведаў, што прапіваў маёмасць са сваёй гаспадаркі

**ВАЛОЖЫН**

25-гадовы маладзён выпіваў са знаёмым, абкрадаючы яго.

Пра здарэнне распавяла старшы следчы Валожынскага РАСК **Дар'я Мікуліч**.

Маладзён прыйшоў у госці, праз некаторы час выпіўка закончылася. Госць прапанаваў штонебудзь прадаць і спусціць грошы на стол. Напрыклад, бензапілу, што ляжала ў гаспадарчай пабудове. Гаспадар адказаў, што бензапіла, хоць і ляжыць у яго, належыць брату, і прадаваць не дазволіў.

Праз некалькі тыдняў госць усё ж скраў бензапілу і прадаў, а грошы прапіў з гаспадаром, які нічога і не западозрыў.

Яшчэ праз некалькі тыдняў маладзён скраў з пабудовы газавы і кіслародны балоны і зноў жа іх прапіў са знаёмым.

А той і не ведаў, што прапівае маёмасць, скрадзеную са свайго двара.

**Аддзел інфармацыі.**




Над аздабленнем сцен працавалі архітэктар, будаўнікі, свае задумы прапаноўвала і загадчыца Вольга Баяровіч. Стараліся, каб атрымалася сапраўды якасна і ўтульна.

# У Астраўцы адкрыюць другі дзіцячы садок з басейнам

АСТРАВЕЦ

**Да канца лета адкрыецца новы трохпавярховы дзіцячы садок у Астраўцы ў мікрараёне №2. Ён разлічаны на 190 дзяцей.**

А вось у штаце пакуль толькі два спецыялісты: загадчыца **Вольга Баяровіч** і загадчыца гаспадаркі **Іна Кавалеўская**. Менавіта яны займаюцца пытаннямі ўкамплектавання і забеспячэннем усім неабходным.

– Усяго будзе працаваць 60 чалавек, – тлумачыць загадчыца. – Усе спецыялісты ўжо запісаныя, ёсць папярэдняя дамоўленасць. Самае галоўнае, калі адкрыецца садок, – згуртаваць калектыў, бо людзі ўсе розныя, шмат прыезджых. Будзем старацца, каб атмасфера была спрыяльная для працы і людзі ішлі сюды, як на сапраўднае свята, бо як інакш з дзецьмі.

### Як выглядае садок

Першы паверх садка пафарбаваны ў блакітны і жоўты колеры, на другім пераважае аранжавы, трэці паверх радуе вочы салатавым колерам.

– Мы стараліся, каб колеры былі адначасова яркія, бо гэта спрыяе творчасці ў дзяцей, але ў той жа час, каб яркасць не ціснула на іх, – расказвае загадчыца. – На сценах разнастайныя малюнкі. У тон колеру сцен падабраная мэбля, жалюзі.

Над аздабленнем працавалі архітэктар, будаўнікі, свае задумы прапаноўвала і загадчыца. Стараліся, каб атрымалася сапраўды якасна і ўтульна.

– Асабліва падабаюцца спальні ў групах, – дзеліцца ўражаннямі Вольга Баяровіч. – У іх адчуваеш сябе сапраўды як дома, спадзяюся, што дзецям таксама спадабаецца і яны з задавальненнем будуць наведваць садок, без слёз развітвацца з бацькамі.

Акрамя ўтульных пакояў, дзяцей і бацькоў парадуюць трэнажорная, гімнастычная, актавая і музычная залы, а таксама басейн. Гэта другі па ліку садок у Астраўцы, дзе ёсць басейн.

На тэрыторыі ўжо пасаджаныя кветкі і дэкаратыўныя кусты, ёсць газон, зробленыя ценявыя навесы.

– Жыхары раёна ўжо да адкрыцця ацанілі дзіцячы садок, – усміхаецца Вольга Віктараўна. – Штодзень прыходзяць мамы з дзецьмі, каб паглядзець, напрыклад, на арэлі, з'ехаць з новенькай горкі альбо проста пахадзіць па тэрыторыі. Многія спыняюць на вуліцы і пытаюцца, калі адкрыецца садок. Спадзяюся, што садок цалкам апраўдае чаканні бацькоў і дзяцей.

Дакладная дата адкрыцця пакуль невядомая, плануюць, што ў канцы жніўня садок расчыніць дзверы перад маленькімі наведнікамі.

Садок знаходзіцца па вуліцы Уладзіміра Караткевіча, 15.

Галіна СУДНІКОВІЧ.

● НАВІНЫ

## Школьнікі – на сцэне Мінскага абласнога драматычнага тэатра

МАЛАДЗЕЧНА

**Свята дзяцінства і творчасці "Чароўны свет тэатра" адбылося ў Мінскім абласным драматычным тэатры 27 мая.**

Яно стала лагічным працягам раённага фестывалю дзіцячых тэатральных калектываў "Малая Сакавіца". Падчас закрыцця фестывалю дырэктар тэатра **Юрый Крывенькі** прапанаваў пераможцам і прызёрам выступіць на прафесійнай сцэне напярэдадні Сусветнага дня абароны дзяцей.

Гэта стала сапраўдным падарункам для юных акцёраў. Яны былі галоўнымі дзеючымі асобамі на сцэне, а прадстаўляў іх гледачам вядучы мерапрыемства акцёр Мінскага абласнога драматычнага тэатра **Сяргей Карзей**.

Свята адкрылі самыя юныя ўдзельнікі фестывалю – тэатральная студыя "Драмацешка" гімназіі №10 з мініяцюрай "Зялёныя гісторыі" па вершах Андрэя Усачова.

– Мы любім тэатр! Седзячы ў глядзельнай зале, адчуваем яго сапраўды магічнае ўздзеянне. Але яшчэ больш чароўныя перажыванні здараюцца з намі, калі мы самі апынаемся на сцэне! – сцвярджаюць юныя акцёры і іх кіраўнік **Алена Баштык**.

Нягледзячы на юны ўзрост, калектыў даволі тытулаваны. У 2013 годзе дзеці атрымалі дыплом II ступені ў рэспубліканскім конкурсе дзіцячых тэатральных калектываў "Тэатр юнага гледача "Зубраня".

Прызавым месцам у раённым фестывалі "Малая Сакавіца" адзначылі 10-гадовы юбілей свайго калектыву навучэнцы тэатральнай студыі "Кіпень" СШ №8. Сцэнарый да пастаноўкі "Новыя прыгоды Бураціна" напісала сама кіраўнік студыі **Лілія Стасюлевіч**. Яна лічыць, што неталенавітых дзяцей не бывае, трэба толькі падтрымаць тое, што дадзена з нараджэння.

Удзельнікі аб'яднання па інтарэсах "Тэатральныя падмосткі" гімназіі №7 перанеслі гледачоў у "Горад дзяцінства" і прымусілі задумацца аб узаемаадносінах дарослых і дзяцей, сяброўстве і марах. Ініцыятарам стварэння тэатра была педагог-арганізатар гімназіі **Святлана Гецэвіч**. Сама яна скончыла Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці "Акцёр тэатра лялек". 12 гадоў працавала рэжысёрам Залескага народнага тэатра лялек "Батлейка".

У рэпертуары калектыву казкі "Чырвоная Шапачка і трое ваўчанят", "Пеця і сумленне", "Падарожжа ў краіну ветлівасць". Акрамя пастановак юныя акцёры ўдзельнічаюць у гімназічных мерапрыемствах, выступаюць для дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі.

Свята завяршылася пастаноўкай "Казка аб мёртвай царэўне і сямі волатах" у выкананні тэатральнага калектыву гімназіі-каледжа мастацтваў "АкваМарын". Гэта назва была абраная не выпадкова: у ёй зашыфраванае імя кіраўніка **Марыны Дудко** і яе любімы колер – начнога неба. Малады педагог аб'яднала пад сваім крылом 56 творчых і таленавітых хлопчыкаў і дзяўчынак. За два гады "акваМарынаўцы" паставілі спектаклі "Качыныя гісторыі", "Муха-Цакатуха", "Мыйдадзір", "Выпадак з анёльскім сябрам" і іншыя.

– Дзякуй за такое свята для нашых дзяцей і для нас, бацькоў. Мне спадабаліся ўсе спектаклі, аднак з найбольшым трапятаннем я сачыла за пастаноўкай СШ №8, дзе мая дачка Марыя іграла Артэмона, – падзялілася ўражаннямі **Наталля Блашко**.

Марта МІЛАСЕРДАВА, школа журналістыкі "Маладзік".



Удзельнікі аб'яднання па інтарэсах "Тэатральныя падмосткі" гімназіі №7. Фота з архіва ЦТДзіМ "Маладзік".




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**.
**ВІЛЕЙКА** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.**

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

| Тэлефонныя коды | гарадоў рэгіёну: |
|---|---|
| Астравец | -01591, |
| Ашмяны | -01593, |
| Валожын | -01772, |
| Вілейка | -01771, |
| Маладзечна | -0176, |
| Мядзел | -01797, |
| Смаргонь | -01592. |



# ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-2101, 1972 г.в., у добрым стане, бэжавы колер. Т. Вэлком (8-029) 9862628, МТС (8-033) 6053526.

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• ВАЗ-2121, 1990 г.в, 1600 руб. Мядзел. Т. (8-029)6126382.

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Фіят-Брава, 1996 г.в.,1,4Б, цалкам пераварыны, 2100 бел. руб, торг ля капота. Т. (8-025) 7416078.

• Форд-Сіера, 1990 г.в., рух. DOHC, 2,0 бензін. Вілейка. Т. МТС (8-033) 6616578.

• **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўтамабіль, мікрааўтобус у любым стане. Т. (8-029) 3883300.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*

• Аўто ў любым стане. Дорага. Т. МТС (8-029) 7076969.*

• Аўто, можна з праблемамі. Прыеду сам. Т. МТС (8-029) 7773083.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэякапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*

• Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 9267289.

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. В. Гасцінец, 88. Т. (8-029) 5634407.*

• 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, еўрарамонт, магчымы абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-029) 2749893.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 108 кв.м. Т. (8-029) 6795426.*

• Дом 100 кв. м, газ, водазабеспячэнне, каналізацыя, цапліца, альтанка, 11 сотак зямлі. Т. Вэлком (8-044) 7155621, (8-029) 6499848.*

• Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*

• Дом жылы ў Маладзечне, цэнтр, газ, вадаправод. Т. Вэлком (8-029) 6691789.*

• Дом у в. Куранец, у добрым стане, калодзеж, склеп. Т. (8-029) 7752165, (8-01771) 23871.

• Дом у в. Куранец, участак 20 сотак альбо абмен. Т. МТС (8-029) 7603076.*

• Дом у в. Маркава Маладзечанскага раёна, 24 соткі агарода, гаспадарчыя пабудовы, калодзеж, газаправод побач. Цана дагаворная. Т. (8-0176) 755866.*

• Дом у в. Седзіца. Тэрмінова. Т. (8-029) 5761733, (8-029) 5668819.



• Дом у в.Маркуны Астравецкага раёна на беразе р. Вілія. Т. (8-044) 4781305.*

• Дом у в.Порса, участак 30 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у Вілейцы 70 кв.м, бервяно, участак 15 сотак, сад, калодзеж, цана 28 тыс. бел. руб. Т. (8-01771) 21293, (8-01771) 54399.*

• Дом у г. Бярозаўка Лідскага раёна, 18 сотак, камунікацыі, паблізу возера і рака Нёман. Т. +37060468286, +37060316004 (Літва).

• Паўдома ў Вілейцы, цэнтр горада, 10 сотак зямлі. Т. (8-029) 2649248.

### ЗДАМ

• Пакой для хлопца ў Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5719435.*

• У арэнду памяшканне на рынку райспажыўтаварыства г.Маладзечна, 15 кв.м. Ёсць інтэрнэт і відэаназіранне. 200 рублёў у месяц. Т. (8-029) 6578329.

# ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ПАСАЖЫРАПЕРАВОЗКІ

• Здам у арэнду аўтобус ПАЗ 25 + 15 месцаў. Т. (8-029) 6689034.



### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Грузаперавозкі. Бус 1,5 тн. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• МБ-Спрынтар, суцэльнametaлічны, 4,20х1,75х1,65 м. ІП Навойчык А.У. УНП 692015166. Т. (8-029) 1684717, (8-029) 7684717.*

• Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Аграсядзіба**, ЛАЗНЯ.** vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*

• **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ**. ІП Бяліцкі А.В. УНП 690688577. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1232842.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Суббот П.І. УНП 692010733. Т.(8-029) 7737451, (8-029) 1285233.*



• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. Хутка. Нядорага. Акцыі. Скідкі. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450 Т. МТС (8-029) 7860317, Вэлком (8-029) 1287878.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. Нізкія цэны. ІП Мацін А.М. УНП 691410712 Т. (8-029) 9447224, (8-033) 6911759.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• **ДАХАВЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці (металачарапіца, андулін, шыфер, кампазітная і гнуткая чарапіца). Рамонт старых дахаў. Аддзелка фасада сайдынгам, блокхаўсам, панэлямі ПВХ. Выезд, замер, дапамога ў выбары матэрыялу, дагавор, гарантыя. ІП Місюкевіч Я.В. УНП 691289699. Т. (8-029) 2567435.*

• Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417.*

• Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Правы, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамажа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт металічных дзвярэй. Змена знешняга віду. Рамонт, замена замкоў і фурнітуры. Уцяпленне. ІП Новікаў А.А. УНП 691899716 Т. (8-029) 6548129.*

Прадам **ДАЧУ** паблізу Вілейкі, Плікавічы. Участак 10 сотак. 4 км да вадасховішча.

Т. (8-029) **651 20 36**.



Кацярына выбірае адзенне для сваіх блізнятак.



Ірына Рагун прапануе камбінезон.



Варвары спадабалася вязаная камізэлька.

# Як дзве мамы зладзілі бясплатны кірмаш

ВІЛЕЙКА

**28 мая ў фае цэнтра дадатковай адукацыі ў Вілейцы зладзілі кірмаш, дзе дзіцячае адзенне можна было ўзяць бясплатна.**

Так-так. Бясплатна. Ад 3 мая тут паставілі скрыню, куды жыхары Вілейкі маглі прыносіць не новае, але чыстае дзіцячае адзенне на розныя ўзросты. Прымалі ўсё, акрамя бялізны.

### У слове "бясплатна" чамусьці бачаць падвох

Такі кірмаш арганізавалі ўжо другі раз дзве мамы з Вілейкі – **Ірына Рагун** і **Ірына Трубач**.

– Першы раз мы правялі фрымаркет восенню ў кінатэатры "Мір", – распавяла Ірына Трубач. – Але тады мы былі абмежаваныя ў часе. У 12:00 пачыналася кіно, не хацелася перашкаджаць людзям. У фае цэнтра больш зручна.

Па словах арганізатараў, прыносілі адзенне людзі актыўна, не толькі дзіцячае, а нават і дарослае. А вось браць асабліва не хацелі.

– Бясплатныя кірмашы ў сталіцы – распаўсюджаная з'ява, і ўсе да яе ставяцца нармальна, – падзялілася назіраннямі Ірына Рагун. – А ў Вілейцы чамусьці ў слове "бясплатна" ўсе бачаць нейкі падвох.

І сапраўды. Здаецца, інфармацыі пра кірмаш было дастаткова. Арганізатары нават у дзіцячыя садкі паведамлялі. Але асаблівай актыўнасці з боку віляйчан не было.

Тады жанчын з калясками проста з вуліцы пачалі запрашаць на кірмаш. Большасць здзіўлялася.

– Як гэта бясплатна? А дакументаў ніякіх не трэба прад'яўляць? – недаверліва пыталіся матулі, але збочвалі ў накірунку цэнтра.

### Тата гуляў з дзецьмі, мама выбірала адзенне

Мама хлопчыкаў-блізнятак **Кацярына** пра фрымаркет даведалася з сацсетак. Кажа, хацела нешта прынесці з дзіцячага адзення. Але хлопчыкі пакуль такія маленькі. Таму няма тых рэчаў, з якіх бы яны павырасталі.

– Усім цяпер нялёгка, – кажа яна. – Людзі рады любой дапамозе. Я не разумею людзей, якія кажуць, што быццам бы нельга апранаць дзяцей у паношаныя рэчы.

І пакуль тата з сынамі гуляюць каля цэнтра, мама выбірае штонікі, кашулі, вязаныя шапачкі. Кажа, што падтрымлівае арганізатараў. Ініцыятыва патрэбная.

### Дапамога патрэбная, хоць аднаго гадуеш, хоць чацвярых

**Анжаліка** з Вілейкі гадуе чацвярых дзяцей. На кірмаш прыйшла з трыма дзяўчынкамі. Дома з татам застаўся трохгадовы сын. Пра бясплатны кірмаш даведалася выпадкова.

– Малайцы арганізатары, – кажа Анжаліка. – Час цяпер такі, што дапамога ўсім патрэбная: хоць ты адно дзіця гадуеш, хоць чацвярых.

На кірмашы Анжаліка падабрала адзенне на дзвюх сваіх дзяўчынак, дашкольніцу **Варвару** і пяцімесячную **Кацярыну**. Дзякуй арганізатарам, зэканомілі на адзенні, кажа Анжаліка на развітанне.

### Зборы ў экспедыцыю па Віліі

Бабуля з унучкай зайшлі выбраць што-небудзь для экспедыцыі "Шляхам Тышкевіча".

– У мінулы раз усю скуру на сонцы спаліла, – прыгадвае бабуля. – Таму і сарочка з доўгімі рукавамі, і байка будуць дарэчы ў паходзе.

– У гэты раз прынеслі шмат зімовага адзення, вязаныя шапкі, шалікі, рукавіцы, паліто, – распавяла Ірына Рагун. – Шмат сукенак для дзяўчынак. Для хлопчыка-школьніка выбралі пінжак. Рэчы, якія засталіся, аддадзім у сацыяльна-педагагічны цэнтр у Вілейцы.

Супрацоўнікі вілейскага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі падрыхтавалі памяткі, дзе прапісалі, як абыходзіцца з рэчамі, якія ўжо насілі. Такую памятку атрымаў кожны, хто завітаў на кірмаш.

– Мы бачым, што такія кірмашы патрэбныя, – кажа Ірына Трубач. – І абавязкова плануем зладзіць яшчэ. Але хацелася б большай актыўнасці ад людзей. Хай яны нарэшце развітаюцца са стэрэатыпамі і будуць адэкватна ўспрымаць падобныя мерапрыемствы.

Аксана ЯРАШОНАК.
Фота аўтара.

# У Будзішчы зладзілі сустрэчу землякоў

ВІЛЕЙКА

**З Ілы праз Калодчына едзем у вёску Будзішча. Пару кіламетраў пыльнай "гравійкі" – і вось ужо першыя будзеўскія хаты.**


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Міхаіл Вайтовіч ля роднай студні.

– Дзень добры! Дзе ў вас тут свята? – пытаюся ў першай сустрэтай жанчыны.

– Ой, дзевачка, ты ж усё самае цікавае ўжо прапусціла, – кажа мясцовая жыхарка.

Але потым супакоіла. Афіцыйная частка ўжо скончылася, памятны валун устанавілі. Але на беразе безыменнага возера жанчыны ўжо засцілалі абрусам доўгі стол, а дзятва дурэла ля маляўнічых бярозак.

### Як жывуць і святкуюць у вёсцы з дзесяццю жыхарамі

– Пастаянных мясцовых жыхароў у нас прыкладна дзесяць, – расказала староста вёскі **Наталля Дуровіч**. – Самая старэйшая з усіх – мая мама **Надзея Дуровіч**. Ёй 86 год. У Будзішча яна выйшла замуж з суседніх Кавалёў.

**Школьнікаў у Будзішчы ўжо даўно няма. Самаму маладому жыхару Данілу Жаўняровічу крыху за 20. Ён адвучыўся ў каледжы і пакуль жыве ў бацькоў.**

Часта прыязджае ў родную вёску сын Наталлі **Мікалай**. Хлопец працуе ў Мінску тэхнікам-альпіністам, заканчвае авіяцыйную акадэмію.

Сустрэчы землякоў у Будзішчы праводзяць штогод у маі. Ёсць альбом, у які збіраюць фотаздымкі з сустрэч, копіі старажытных дакументаў, публікацыі пра вёску.

У другім альбоме робяць запісы тыя, хто прыязджае на сустрэчы.

### Аўгіньчын камень стаў помнікам

Сёлета ў Будзішчы паставілі памятны валун з назвай вёскі і радкамі **Рыгора Барадуліна** з верша "Трэба дома бываць часцей...".

Арганізавалі свята і паставіць помнік вёсцы дапамаглі былыя і сённяшнія будзеўцы і жыхары недалёкіх вёсак **Міхаіл Вайтовіч, Сяргей Шушкевіч, Мікалай Апяцёнак, Аляксандр Дуровіч, Уладзімір Дуровіч, Наталля Дуровіч, Леанід Нарэйка, Таіса і Леанід Зенчанкі.**

Камень нават не прыйшлося везці здалёк.

– Калі вырашылі знайсці валун, каб усталяваць памятную дошку, – распавядае ўраджэнка вёскі Таіса Зенчанка, – я прапанавала Аўгіньчын камень. Яго памятаю з дзяцінства. Камень ляжаў ля хаты бабулі **Аўгінькі**, і я ў дзяцінстве ніяк не магла на яго залезці. Можна сказаць, што мы ўсе гадаваліся на гэтым камяні.

### Ганна Кісель: ніколі не прадавайце бацькоўскую хату

Штогод прыязджаюць на свята **Ганна і Васіль Кісялі**. Ганна родам з Будзішча. Спачатку вучылася ў суднікоўскай васьмігодцы, потым перайшла ў ільянскую школу.

Бацька Ганны **Пётр Клімёнак** быў добрым музыкантам. Шмат праводаў і вяселляў адыграў на сваім баяне.

– Але мала хто ведаў бацьку як Клімёнка, – прыгадвае Ганна. – Усе яго звалі **Пеця Гарбуз**. Калі я казала, што дачка Пеці Клімёнка, шмат хто няўцямна пацiскаў плячыма. Калі ж удакладняла, што дачка Гарбуза, людзі адразу разумелі, чыя я.

Некалькі год таму бацькоўскую хату Ганна прадала. Кажа, так склаліся абставіны. Продаж даўся вельмі цяжка. Мне было так балюча, што чатыры гады не магла прыязджаць у вёску, прыгадвае жанчына.

Сёння Ганна прыязджае ў родную вёску на сустрэчы землякоў, на Радаўніцу. Але цяпер пераканаеная: на сённяшні дзень ні за што б не прадала хату бацькоў.

Сёстры Ганны працуюць і таму не змаглі прыехаць на свята.

– Самі ж ведаеце, як пенсіянеры цяпер за працу трымаюцца, – кажа жанчына. – Але душой яны з намі. І як толькі я прыеду дадому ў Вілейку, будуць тэлефанаваць і распытваць пра родную вёску і землякоў.

А вось Таіса Зенчанка бацькоўскую хату не прадавала. Сёння яна прыязджае сюды з сям'ёй, прывозіць адпачываць унучку-мінчанку **Злату**. Жанчына на пенсіі, але яшчэ працуе інжынерам па ахове працы ў інстытуце пульманалогіі.

Муж Леанід Зенчанка – карэнны мінчанін. Нарадзіўся на тым месцы, дзе сёння стаіць будынак музея Вялікай Айчыннай вайны. У Будзішча заўсёды едзе з задавальненнем. Як і сваццю **Аляўціна**, якая нарадзілася і жыла ў Пермскай вобласці, а вёску Будзішча называе казкай.

### Як царскія ўлады не прызнавалі імя Алесь

Пра будзеўскія карані расказалі **Міхаіл Вайтовіч** з Радашкавічаў і яго пляменнік **Юры Вайтовіч** з Маладзечна.

– Вось у гэтай хаце жыла наша сям'я – маці, бацька і чацвёра нас, братоў, – расказаў Міхаіл. Год дзесяць таму хату прадалі.

Па словах Міхаіла, падлеткі ў Будзішчы не пілі і не курылі, а вось залезці ў чужы сад за грушамі маглі.

Заўсёды прыязджае на сустрэчы і прадпрымальнік з Маладзечна Мікалай Апяцёнак. У Будзішчы яшчэ стаіць хата ягонага дзеда **Алiся**, якой каля 130 гадоў.

– Дзед нарадзіўся ў 1894 годзе, – распавядае Мікалай. – Бацькі назвалі яго Алесем. Але рускія ўлады не прызналі такога імя і запісалі дзеда як **Аляксандр Клімёнак**. Хоць у гэтай сям'і ўжо быў адзін брат Аляксандр.

Каб неяк размежаваць родных братоў з аднолькавымі імёнамі, бацькі і сваякі пачалі зваць дзеда Оліся.

### Работнікі ільянскага клуба: ільянцам трэба раўняцца на жыхароў малых вёсак

Трэці год прыязджаюць у Будзішча артысты ільянскага клуба. На "ўра" тут ідуць і застольныя песні, і конкурсы. Па словах супрацоўніцы **Людмілы Тонкавіч**, выступленне ў Будзішчы – гэта адкрыццё сезона для іх. За лета запланавалі аб'ездзіць з канцэртамі некалькі невялікіх вёсак у ільянскім сельсавеце.

– Вось глядзіш, колькі сёння сабралася людзей у маленькім Будзішчы, і проста зайздросціш, – падзяліўся дырэктар ільянскага СДК **Мікіта Паўтарэцкі**, – прыехалі нават людзі, у якіх няма сваіх хат.

А ільянцаў – жыхароў вялікага аграгарадка, – па словах Мікіты, на мерапрыемства не сабраць.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)




## "Маладзечна-2017" запрашае гледачоў!

**Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі "Маладзечна" адбудзецца сёлета ў 17-ы раз ад 1 да 4 чэрвеня.**

135-годдзе ад дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа стане лейтматывам урачыстай падзеі.

### 2 чэрвеня, пятніца

**12:00, канцэртная зала Палаца культуры (ПК)**

II тур рэспубліканскага этапу Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні.

**15:00, малая зала ПК**

**Прэзентацыя кнігі** "Талент, адухоўлены любоўю", прысвечаная 80-годдзю народнай артысткі Беларусі Марыі Захарэвіч.

**17:00, сцэна амфітэатра**

III тур рэспубліканскага этапу Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні з удзелам заслужанага Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга.

**19:00, канцэртная зала ПК**

**Спектакль** "Паўлінка". Пастаноўка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы на маладзечанскай сцэне будзе прадстаўлена ўпершыню.

**21:30, амфітэатр**

**Урачыстае адкрыццё.** Прэм'еру канцэрта "Купала і Колас. Вы нас гадавалі" прадставіць Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі.

Другі фестывальны дзень завершыць цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні.

**Святочны феерверк** стане яркай кропкай адкрыцця фестывалю.

### 3 чэрвеня, субота

**9:00, гарадскі парк і стадыён пляжных відаў спорту**

**Свята спорту** "Спартыўны калейдаскоп". У праграме: лёгкаатлетычны прабег, спаборніцтвы па пляжным валейболе і футболе, выступленне спартсменаў БДУФК, дзіцячая спартландыя, майстар класы па баявых відах мастацтва, спартыўнай гімнастыцы, танцах.

**11:00, канцэртная зала Маладзечанскай дзіцячай школы мастацтваў**

**Канцэрт** акадэмічнай музыкі "Зямля бацькоў, зямля святая".

**12:00, Цэнтральная плошча**

**Канцэрт** "Масты сяброўства культурных сталіц" з удзелам творчых калектываў Бабруйска.

**13:00, Мінскі абласны краязнаўчы музей**

**Выстава** "Родныя вобразы", прысвечаная 135-годдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа.

**14:00, малая зала ПК**

**Паэтычная гасцёўня** "Красуй, Беларусь" з удзелам беларускіх паэтаў.

**14:00, Цэнтральная плошча**

**Моладзевая пляцоўка** "Арт-Старт" з удзелам сучасных рэп-, бітбокс-, рок-выканаўцаў.

**15:00, канцэртная зала ПК**

**Гала-канцэрт** "Маладзічок" запальвае зоркі". Падчас музычнай праграмы адбудзецца ўручэнне Гран-пры.

**16:00, плошча ля кінатэатра "Радзіма"**

**Паэтычная пляцоўка** "Чытаем Купалу і Коласа разам".

**16:00, Чысцінскі сельскі Дом культуры**

**Канцэрт** беларускай эстраднай песні "Усё, што мы ў музыцы, – у сэрцы тое ж!" у выкананні заслужанага калектыву "Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі".

**21:30, амфітэатр**

**Канцэрт-закрыццё**. Праграма будзе прысвечаная 45-годдзю ансамбля "Сябры". Удзел у канцэртнай праграме прымуць зоркі беларускай і расійскай эстрады.

### 2 і 3 чэрвеня

Адкрытыя пляцоўкі, выставы-продажы на Цэнтральнай плошчы, вуліцы Прытыцкага, у гарадскім парку.

Знойдуць сабе занятак у святочныя дні дзеці і моладзь фестывальнага горада, наведаўшы гульнёва-забаўляльную пляцоўку "Свет дзяцінства". На ёй 3 чэрвеня пройдзе свята фарбаў "Холі".

# Украіна – гэта калі вальс Чайкоўскага табе іграе сам Чайкоўскі

**Папярэджанне: калі вы не любіце Украіну, не чытайце гэты тэкст.**

Таму што ў ім усё: і казакі, і ўкраінскія песні, і душа цэлага народа.

Нагодай наведвання цэнтральнай Украіны стаў фестываль “Кабзар яднае Украіну”, які праводзіцца тут ужо трэці год запар.

Беларуская дэлегацыя была запрошаная пакуль толькі ў якасці гасцей, але хто ведае, магчыма, на будучы год журналісты з Беларусі таксама стануць удзельнікамі і лаўрэатамі гэтага конкурсу.

Тое, што мне спадабаецца ў Чаркасах, я зразумела, як толькі мы пад’язджалі да горада. Тут, у самым горадзе, месціцца Крамянчугскае вадасховішча. Для беларусаў гэта вадасховішча – сапраўднае мора. Мяркуйце самі: даўжыня яго прыкладна 150 кіламетраў, а шырыня – 30.

Захацелася крыкнуць кіроўцу аўтобуса:

– Напляваць на прыстойнасць і купальнікі – давайце купацца!

Але пакупацца не ўдалося, бо фестываль толькі пачынаўся.

### Украіна невядомая

Ці ведаеце вы, напрыклад, што галоўная вуліца ў Чаркасах называецца Хрэшчацік? А пра тое, што партнёр Чаркасаў наш горад Орша?

На жаль, горад паглядзець атрымалася амаль толькі з акна аўтобуса, але гэтага хапіла, каб заўважыць, што ён вельмі зялёны. Не такі зялёны, як, напрыклад, Маладзечна. А вельмі-вельмі зялёны. Агромністыя каштаны і таполі, якія галінкамі б’юць у шыбу аўтобуса. Але іх ніхто не абразае. А ад гэтага горад становіцца падобны на казачны лес. У Чаркасах, як і амаль ва ўсіх украінскіх гарадах, няма помніка Леніну.

Тут, на цэнтральных плошчах, усталёўваюць помнікі героям нябеснай сотні.

На адкрыццё аднаго з такіх помнікаў мы і трапілі на наступны дзень – у горад Каменку.

На цырымоніі адкрыцця помніка прысутнічалі не толькі афіцыйныя асобы і дэлегацыі, але і сваякі салдатаў, якія цяпер абараняюць сваю краіну.

На помніку словы “Героі не паміраюць” і “Слава Украіне”.

І песні, што тут выконваліся, гучалі не для таго, каб заняць час, а ў словах патрыятычных песень сапраўды верыш:

*Я України син*
*І щиро-гордий цим,*
*Ні, в серці не потух*
*Її незборний дух.*

А яшчэ ў краязнаўчым музеі гэтага горада ёсць зала, якая прысвечаная сучасным падзеям, у зале захоўваецца сцяг, на якім распісаліся салдаты, зброя, якой ваююць на ўсходзе Украіны.

Але пра музей пасля. Бо наступным горадам, дзе нам давялося пабываць, быў горад Залатаноша.

Горад невялікі, у ім усяго 30 тысяч насельніцтва. Але тут стаіць помнік цэнтру Еўропы. Так-так, па версіі ўкраінцаў цэнтр Еўропы тут.

Ёсць у горадзе завод кавы тры у адным. Але п’юць гэтую каву ва Украіне, Азербайджане, Грузіі. Але не ў Беларусі.

Мы п’ём каву з расійскага завода, але той самай сінгапурскай фірмы.

Не ведаю, як астатнім удзельнікам нашай дэлегацыі, але мне было балюча назіраць, як сапраўдная кава з Эфіопіі трапляе ў вялізныя бункеры для таго, каб потым стаць напоем тры ў адным з пакеціка.

А яшчэ горад Залатаноша называецца так не таму, што тут усе носяць золата. Згодна з легендай, калісьці тут праплываў карабель, які быў да верху набіты золатам. І непадалёк ад горада карабель пацярпеў крушэнне. І да берагоў рака сама прынесла незлічоную колькасць золата.

### Украіна музейная

Але вернемся назад у горад Каменку, дзе мы пакінулі два музеі – краязнаўчы і музей А.Пушкіна і П.Чайкоўскага.

Так, і Пушкін, і Чайкоўскі былі гасцямі дома Давыдавых.

**Аляксандр Сяргеевіч менавіта ў Каменцы напісаў верш “Редеет облаков летучая гряда”…**

А таксама пакідаў аўтографы вершаў у альбомах мясцовых прыгажунь. Я ўпершыню ўбачыла такі альбом. Падобны да дзіцячага песенніка нашых гадоў. Тыя ж малюнкі, пажаданні і гербарый паміж старонкамі.

А што датычыцца Пятра Ільіча, то ён у Каменцы быў частым госцем. Тут жыла яго сястра. І на лета кампазітар заўсёды прыязджаў у гэтыя мясціны.

Адкуль я гэта ведаю? Ды Пётр Ільіч сам пра гэта расказаў!

Праўда-праўда. Экскурсія ў музеі вядзецца ад першай асобы. На парозе нас сустрэла жанчына. І пачынае расповед:

– Добры дзень, мяне завуць Марыя Давыдава, а дом, у якім вы знаходзіцеся, мне падарыў мой бацька ў 1863 годзе…

З натоўпу турыстаў пытанне:

– Гэта ж колькі вам гадоў?

А тут адкрываюцца дзверы іншай залы і адтуль выскоквае малады чалавек у цыліндры:

> **– Дазвольце адрэкамендавацца сябе, я – Пётр Чайкоўскі.**

Калі раптам трапіце ў гэтыя мясціны, не пашкадуйце часу, зайдзіце ў гэты музей. Дзе ж вам яшчэ пашанцуе пачуць вальс Чайкоўскага, які выконвае сам Чайкоўскі.

### Украіна мужная

Зусім іншай па настроі была паездка ў Халодны Яр. Халодны Яр – гэта агромністы помнік прыроды. Плошча яго – сем тысяч гектараў.

Халодны Яр мае багатую гісторыю.

На тэрыторыі Халоднага Яра археолагі знайшлі вялікую колькасць старажытных стаянак і паселішчаў. Тут жа знаходзіцца скіфскае гарадзішча VI стагоддзя да нашай эры. Халодны Яр апеты Тарасам Шаўчэнкам у аднайменным вершы, з Халоднага Яра пачыналася “Колиивщина” – паўстанне насельніцтва супраць прыгнёту Польшчы, ад 1918 да 1923 у Халодным Яры дзейнічалі паўстанцкія атрады, якія вялі барацьбу як супраць дзянікінцаў, так і супраць бальшавікоў. У гэты час тут была абвешчана Халоднаярская рэспубліка на чале з братамі Чучупакамі.

Халодны Яр – месца, звязанае з веліччу непакорлівага казацкага духу. Тут заўсёды ішла барацьба за свабоду і волю.

Наведалі мы Дуб Максіма Залізняка, які называюць “Украінскім Патрыярхам”. Дубу, якому больш за 1100 гадоў. Яго дыяметр 8 метраў 90 сантыметраў, вышыня – 24 метры. Пад яго шатром адпачывалі Багдан Хмяльніцкі, Тарас Шаўчэнка і іншыя знакамітыя дзеячы Украіны.

Вельмі цікавым месцам стала гайдамацкая сажалка. У ёй гайдамакі асвячалі свае нажы. У гэтым месцы і цяпер асвячаюць зброю, з якой салдаты ідуць на вайну.

Нам, журналістам, сказалі, што мы таксама кожны дзень маем справу са зброяй. Наша зброя – гэта дыктафоны, фотаапараты і ручкі. І вельмі ўрачыста асвяцілі нашу журналісцкую “зброю”.

– Каб ручкі пісалі толькі праўду, – сказалі нам казакі.



З украінцамі мы гулялі ў гульню, хто чыіх пісьменнікаў успомніць больш. Дзякуючы паэме “Наталка Палтаўка” я ўспомніла Івана Катлярэўскага.


Бандурыст Васіль за вячэрай на бандуры ўсім беларусам іграў песню “Ой, бярозы ды сосны, партызанскія сёстры”.

### Украіна гасцінная

І калі ўжо пісаць праўду пра Украіну, то дзе тут не скажаш пра яе пачастункі?

Запомніўся абед у парку.

Уявіце, пакуль мы былі ў музеі, у гарадскім парку накрылі сталы. Доўгіядоўгія, застаўленыя рознымі прысмакамі. Проста ў цэнтры горада. Калі мы занялі свае месцы за сталамі, дзяўчаты ў нацыянальных строях падалі вялізныя тазікі з сапраўднымі ўкраінскімі варэнікамі.

Ну, як пасля гэтага не заспяваць “Ще не вмерла Україна”.

І як не любіць гэту краіну, якую так любяць самі ўкраінцы?

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара.**



Помнік Міхалу Канткоўскаму на войстамскіх могілках у 2017 годзе.




Карта 1865 года.

# Славутыя землякі з-пад Войстама

СМАРГОНЬ

**Упершыню імёны добравядомых у другой палове 19 стагоддзя і, на жаль, непраўдзіва забытых сёння грамадска-культурных дзеячаў нашага краю адкрыў для сябе ў краязнаўчай працы Напалеона Роўбы "Праўднік па Літве і Белай Русі".**

Аўтар даведніка 1907 года выдання ў матэрыяле пра Войстам адзначыў, што на "парафіяльным могільніку пахаваны **Міхал Канткоўскі**, аўтар працы "Падвойны рахунак" і **Апалінар Пяткевіч**, аўтар адзінай у польскай мове кнігі пра метэаралогію і перакладчык папулярнай кнігі Мітчэла "Аб нябесных целах".

Гэтыя асобы і ўзгаданыя кнігі былі зусім невядомыя краязнаўцам рэгіёна. Тэма зацікавіла, і распачаўся ўласны пошук звестак пра жыццё творцаў, якія знайшлі свой апошні зямны прытулак на войстамскіх могілках.

### Міхал Канткоўскі

Шляхціц герба "Астоя" Міхал Канткоўскі нарадзіўся 29 верасня 1805 года ў радавым маёнтку Сенішкі Свянцянскага павета Віленскай губерні, які сёння знаходзіцца ў межах сучаснай Літоўскай Рэспублікі.

Другі сын у сям'і маёра былога польскага войска **Мацея-Казіміра** і **Ганны Канткоўскіх**, паводле каталіцкай традыцыі таго часу, быў названы некалькімі імёнамі – Міхал Ян Станіслаў Генрык.

Разам з бацькам і братам у 1816 годзе запісаны сярод шляхты завілейскага павета ў спадчынным бацькавым маёнтку Сенішкі. Пра паважнае шляхецкае паходжанне Канткоўскага сведчыць і той факт, што яго хросными бацькамі сталі былы канцлер ВКЛ **Казімір Канстанцін Плятэр** з графіняй **Марыяй Плятэр**.

### Філарэт, паўстанец, аўтар кніг

Вучоба на матэматычным факультэце Віленскага ўніверсітэта стала для Міхала Канткоўскага школай паўнацэннага выхавання, дзе ён раскрыў для сябе сакрэты сапраўднага прызначэння навукі і мастацтва.

Ён уваходзіць у гурток філарэтаў і пад уплывам старэйшых сяброў гэтага канспірацыйнага згуртавання студэнцкай моладзі спрабуе свае здольнасці ў напісанні ўласных твораў. Яго поспехі ў вершаскладанні ўжо тады былі заўважаныя і адзначаныя. Пасля заканчэння ўніверсітэта да 1828 года працаваў ў камісіі Скарбу Каралеўства Польскага ў Варшаве, аднак з падачы вялікага князя **Канстанціна** быў адсунуты з пасады і вярнуўся ў родныя Сенішкі.

Браў актыўны ўдзел у паўстанні 1831 года.

> **У бітве пад Палангай 13 мая 1831 года страціў нагу.**

У пачатку 30-х гадоў 19 стагоддзя пасля шлюбу **з Касыльдай Янушкевіч** у яго сям'і нараджаюцца сын **Яўстафій** і дачка **Ізабэла**.

На працягу наступных амаль 20 год працаваў у канцыляры кіраўніцтва радзівілаўскімі маёнткамі князя Вітгенштэйна ў Нясвіжы і Вільні, адміністратарам маёнткаў магнатаў Браніцкіх у Белай Царкве на Украіне. Як даверана асоба прымаў пасляховы ўдзел у выразшэнні маёмасных спраў некалькіх знакамітых родаў краю.

### "Зляўіў Пегаса"

У 1850 годзе ў віленскай друкарні **Ёзафа Завадскага** пабачыла свет яго кніга "Падвойны рахунак для гаспадаркі, ці прынцыпы бухгалтарскага ўліку, прыстасаваныя для сельскай гаспадаркі". Гэта быў грунтоўны падручнік па рахунказводству для службовых асоб. З друкарні Завадскага ў 1852-1853 гадах выходзіць у трох частках гумарэска Канткоўскага пад назвай "Дырэктар Амбразевіч: гавэнды *(гутаркі)* Міхала Канткоўскага".

Міхал Канткоўскі быў у самых прыяцельскіх стасунках з **Уладзіславам Сыракомлем**, падтрымліваў яго літаратурныя пачынанні. Пратэкцыя і сяброўства з Канткоўскім абудзілі ў паэта пачуццё сваёй моцы і смелую ўпэўненасць ва ўласным таленце. У адным са сваіх лістоў Сыракомля адзначыў, што "Міхал Канткоўскі, саракагадовы земянін, аўтар кнігі пра падвойны рахунак, зляўіў Пегаса і напісаў: "Гавэнду з Амбразевічам" – вельмі мілы твор.

У форме гутаркі з дырэктарам карчмы аўтар распавядае аб важных момантах працы, захоўвае некаторыя ўспаміны жыцця". З нагоды атрымання ад аўтара вышэйзгаданага твора Сыракомля выказвае ўдзячнасць Канткоўскаму сваім вершам "Амбразевіч з Залучча". Прысвяціў свой верш "Да Міхала Канткоўскага" і знаны ў той час пісьменнік А.Э. Адынец, які таксама высока ацаніў апошні твор аўтара.

### Райскі сад у Муле

Пасля 1852 года Канткоўскі перабіраецца на сталае жыхарства ў маёнтак Мула пад Войстам і пачынае займацца ўласнай гаспадаркай.

Захапіўшыся садоўніцтвам, хоць у дадзенай справе быў самавукам, ён паспяхова спасцігае таямніцы вырошчвання пладовых дрэў. Паводле сведчанняў сучаснікаў, яго "райскі сад" у Муле быў закладзены па ўсіх правілах садоўніцтва і становіцца ўзорам для гаспадароў маёнткаў войстамскага наваколля. Яго напрацоўкі па садоўніцтве і сельскай гаспадарцы друкуюцца ў часопісе "Польскі садавод", "Сельскай газеце" і іншых выданнях.

Калі Міхал Канткоўскі асеў на ўласнай гаспадарцы ў блізкім суседстве з аўтарам "Літоўскіх абразкоў" з Дзевятнёў **Ігнацыям Ходзькам**, апошні заклікаў Каткоўскага да большай стараннасці на літаратурнай ніве.

> **"Гутаркі Амбразевіча", рукапісныя гумарэскі, яго песні пачалі "кружыць" па сядзібных салонах акалічнай шляхты.**

Памёр Міхал Канткоўскі 10 чэрвеня 1880 года ў сваім маёнтку Мула і пахаваны на войстамскіх могілках. Шлюб дачкі Канткоўскага Ізабэлы з **Апалінарам Пяткевічам** паяднаў не толькі двух закаханых маладых, але адначасова ўвёў у сям'ю Канткоўскіх новую творчую асобу.

**Уладзімір ПРЫХАЧ.**
**Працяг будзе.**
**Ілюстрацыі забяспечаны аўтарам.**

---

### КАЛЯНДАР

**4 ЧЭРВЕНЯ**

**1872 год.** Памёр **Станіслаў Манюшка**, кампазітар, дырыжор, педагог, класік польскай і беларускай оперы, вакальнай лірыкі.

**5 ЧЭРВЕНЯ**

**75 гадоў** з дня нараджэння **Вячаслава Рагойшы** (1942), беларускага філолага, літаратуразнаўца, крытыка, перакладчыка. Нарадзіўся ў мястэчку Ракаў на Валожыншчыне ў сялянскай сям'і. Скончыў БДУ па спецыяльнасці "беларуская мова і літаратура". Доктар філалагічных навук, прафесар. Аўтар звыш 800 навуковых публікацый і даследаванняў па гісторыі і тэорыі беларускай літаратуры, беларуска-славянскіх літаратурных узаемасувязяў, па вершазнаўстве, праблемах тэорыі і практыкі мастацкага перакладу, паэтыцы літаратурнага твора, з якіх амаль 300 – асноўныя навуковыя працы, у тым ліку 16 манаграфій. Першым дасканала даследаваў рукапісы Янкі Купалы і знайшоў падчас гэтай працы дзясятак новых твораў беларускага класіка. Арганізатар міжнароднай навуковай канферэнцыі "Ракаўскія чытанні" (ад 1996 года).

**80 гадоў** з дня нараджэння (1937) **Валянціна Занковіча**, беларускага архітэктара і скульптара. Жыў, скончыў сярэднюю школу ў Вілейцы. Вучыўся ў Беларускім політэхнічным інстытуце ў Мінску (1953 – 1959). Лаўрэат Ленінскай прэміі СССР, прэміі Ленінскага камсамола Беларусі. Велічныя яго скульптуры прапісаліся ў розных кутках Беларусі. Нямала з іх упрыгожваюць Мінск. Сярод найбольш вядомых – мемарыяльныя комплексы "Хатынь" і "Брэсцкая крэпасць-герой" (у суаўтарстве), стэла "Мінск – горад-герой" (у суаўтарстве), манументальна-дэкаратыўная кампазіцыя "Бег" на стадыёне "Дынама, скульптура "Арфей" ля будынка музычнага вучылішча на вуліцы Грыбаедава ў Мінску, манумент "Беларусь партызанская".

Дзень памяці **Еўфрасінні Полацкай**.

**Сусветны дзень аховы навакольнага асяроддзя.**

**7 ЧЭРВЕНЯ**

**85 гадоў** з дня нараджэння **Міхаіла Герчыка** (Майсея Беньямінавіча) (1932 – 2008), беларускага пісьменніка.

**8 ЧЭРВЕНЯ**

**50 гадоў** назад (1967) у Смольні каля вёскі Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна адкрыта мемарыяльная сядзіба, філіял літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

ТЭМА НУМАРА

# Маці траіх дзяцей выйшла замуж у касцюме эльфійкі

МАЛАДЗЕЧНА

**28-гадовая Марыя Шэбанец носіць новае прозвішча менш за месяц. У маладых атрымалася не толькі незвычайнае вяселле, але і таннае.**


Фота забяспечанае Марыяй ШЭБАНЕЦ.

Маша ва ўборы эльфійкі.

Урачыстасць адбылася 13 мая. Наўмысна.

– У мяне ёсць хобі, – смяецца Маша. – Калі даведваюся пра нейкую прыкмету, то імкнуся даказаць, што яна не працуе. Таму абавязкова май і абавязкова 13-е для вяселля.

### Колькі каштуе вяселле эльфаў

– Хацелася зрабіць цікава, а грошы траціць мы з Толем не маглі. Калі б не сяброўка **Алеся**, я наўрад ці гэта ўсё зрабіла б. Запрасіла яе сведкай, а яна пачала актыўна падкідаць ідэі, думалі, як што пашыць, і сама сабе яна зрабіла сукенку. Я люблю фэнтэзі, цікаваюсь гістарычнымі рэканструкцыямі. Хаця ўбранства было фэнтэзійнае, я скарыстала адну рэч, якую на фота не бачна. Кашуля пад сукенкай, пашытая на ўзор 14-15 стагоддзя. Рыхтавала яе па паўгадзінцы-гадзінцы ў дзень цягам двух тыдняў. Саму сукенку заказала з Кітая. Дыядэму замовіла ў майстрыхі з Піцера. Яна з дроту робіць такія ўпрыгажэнні, што выглядаюць лепш за срэбра. Сандалі купіла летась у Дрэздэне, калі была ў працоўнай паездцы ў Чэхіі, а нас заадно звазілі на экскурсію. Сама рабіла плашч і сабе, і мужу. Матэрыял заказвала ў беларускай інтэрнэт-краме. Не паспявала зрабіць, таму дашывала машынкай. Пояс з двух шнуркоў, якія падарыла сяброўка. Мячы ў мяне былі раней, замаўляла ў майстра. З імі крыху трэніруюся, вучуся фехтаванню ў вілейскім клубе "Паходня", калі знаходжу час.

Свята маладыя ладзілі ў доміку для сустрэчы паляўнічых. Гасцей было каля 15 чалавек. Нявеста і сведка былі ў фэнтэзійных уборах, жаніх апрануў сшыты Машай плашч, а сярэдняя дачка Варвара прыбралася ў касцюм Рапунцэль з Кітая.

На другі дзень маладыя вянчаліся ў царкве. Маша тлумачыць, чаму не захацела апранаць белую сукенку:

– Гэта, па-першае, вельмі звычайна. А па-другое, напэўна, гэта варыянт для маладой дзяўчыны. Калі ў цябе шлюб у першы раз, зручна перадаць арганізацыю сваякам, каб яны падрыхтавалі, як трэба. А я ўжо магу сабе дазволіць і эльфійскае вяселле. Хаця таксама трэба было даказаць, што будзе па-нашаму. Бацькі хацелі нешта больш звыклае для іх. Дзякуючы Алесі было з кім абараняць нашу ідэю. А як спадабалася дзецям!

### Што купілі для вяселля

| | |
|---|---|
| **36 рублёў** | **– сукенка** |
| **20 рублёў** | **– матэрыял для кашулі нявесты** |
| **70 рублёў** | **– на матэрыял для плашча нявесты** |
| **80 рублёў** | **– на матэрыял для плашча жаніха** |
| **40 рублёў** | **– дыядэма** |
| **10 рублёў** | **– абутак** |
| **400 рублёў** | **– гатовая ежа з супермаркета** |
| **60 рублёў** | **– арэнда памяшкання** |
| **40 рублёў** | **– транспартныя выдаткі** |

Фота рабіла сяброўка бясплатна, фотаапарат быў у сястры Толі.

Замест макіяжу і цырульні Маша абрала натуральную прыгажосць.

**756 рублёў выдаткавалі на вяселле.**

### Як пазнаёміліся маладыя

Адзін аднаго Маша і Толя ведалі даўно, у іх адны сябры, з якімі разам хадзілі ў паходы. Адносіны пачаліся летам 2014 года, таму да вяселля ўсё і прадумана, і праверана.

– Для дзяцей прыход новага чалавека ў сям'ю быў натуральны, таму што адбывалася ўсё паступова, – кажа маладая жонка. – Толя – сябра нашай сям'і, які шмат дапамагаў, з часам стаў і яе членам.

Калі пытаюся ў Машы, чым яе зачапіў малады муж, яна адразу ж з захапленнем кажа:

– Ён прыгожы. Ён напалову грэк – па бацьку. Праваслаўны, а для нас гэта еднасць думак. Ён чытае, і не тое, што я, больш сур'ёзныя кнігі. Гэта шыкоўна, калі ты заходзіш у сваю спальню, а там сядзіць найпрыгажэйшы ў свеце мужчына ў вытанчаных акулярах і чытае кнігу! Чытае ён навуковую літаратуру, пра гісторыю, Грэцыю, раннія хрысціянскія творы. Адна з нашых найвялікшых мараў – разам з'ездзіць у Грэцыю. Гэта ж калыска мастацтва! Толя сціплы, нават не захацеў "свяціцца" ў газеце ў гэтым артыкуле. Ён чалавек унутранай працы.

**– Як табе далося рашэнне так змяніць жыццё?**

– Калі баішся нешта змяніць, церпіш сітуацыю, напэўна, яшчэ ёсць сілы яе выносіць. А калі ты на дне, то адзіны магчымы шлях – выплысці наверх.

**– Ці разумееш ты анекдоты пра свякроў?**

– З будучай свекрывёй бачыліся тры гады таму, заходзіла на чай. Потым мама Толі і сястра прыйшлі на Вялікдзень у госці. Паразуменне адбылося адразу. Двойчы ў мяне была свякроў, і ні разу анекдоты пра іх я не разумела. Тое, што мы не звязаныя крывёй, дапамагае, няма лішняга панібрацтва, таму так нават лягчэй. У любых адносінах галоўнае ўзаемапавага – з дзецьмі, роднымі, новымі роднымі, мужам. Калі павага губляецца, вось тады праблема. Мы з Толем аднагодкі, яго радня рашэнне пра шлюб прыняла спакойна – усё ж ён даўно не хлопчык.

### Пра гаспадарку

– Займацца гаспадаркай мне падабаецца, але часу на яе амаль няма. Таму робіцца ўсё па прынцыпе "далей нямозна". З ежы гатую, што прасцей. Напрыклад, бульбу з цыбуляй на бляху, зверху мяса ці рыба, заліваю соусам – і ў духоўку. На выхадных стараемся нешта цікавае прыгатаваць. А нядаўна купіла кніжную шафу, нарэшце, шчасце такое! Кніжачкі расставіла, ведаю, што мне туды яшчэ трэба. Мой муж гатуе лепш за мяне, ён і поварам працуе. А дома гатуе той, хто мае час.

### Пра шчасце

– Цытуем з мужам адзін аднаму тое, што чытаем. Калі за дзецьмі ёсць каму прыглядзець, то наш лепшы адпачынак – пайсці ў лес. Няма калі адчуваць сябе шчаслівай. Але калі ўдваіх трапім у лес, то буду. Шчаслівы момант перад сном, калі справы зробленыя, усе спяць.

### Дзеці і дом

У Машы трое дзяцей. Старэйшай Насці 10 год, Варвары 8. Малодшы Вова сёлета пойдзе ў школу, у жніўні яму споўніцца шэсць год.

– Калі Вова дома, то прачынаюся ў 6:45, каб яго завесці ў садок, пакарміць дзяўчат – і за працу. Звычайна праца пачынаецца ў 10. Калі Вова ў таты, а ён звычайна ў таты па буднях, то падымаемся да 9:30. У дзяўчынак другая змена, яны самі ідуць на прыпынак і едуць у 14-ю школу. Мне галоўнае назіраць, каб яны па часе паспявалі.

Галоўная складанасць, з якой давялося сутыкнуцца сям'і, – жылая плошча:

– Калі знайшлі, дзе жыць, астатняе вырашаецца. Пакуль жывём на кватэры. Але атрымалі ўчастак за станказаводам, пачалі будаваць дом. Цяпер заліваем фундамент. Збіраем грошы, накідалі план. Нешта робім самі, нешта просім дапамагчы знаёмых. Ужо ўяўляю, якім будзе дом, дзеці плануюць, дзе што будзе стаяць, якія шпалеры паклеяць. Плошча каля 113 квадратаў, два паверхі. На ўчастку абавязкова будуць дрэвы і расліны, якія схаваюць агароджу. І арэлькі, прычым мае.

### Праца

Марыя працуе на фабрыцы ў Ніжагародскай вобласці Расіі па вырабе матрошак. У Празе яны маюць склад, з якога рассылаюць матрошак па ўсім свеце.

– Мая справа – працаваць з кліентамі, што жывуць за межамі Расіі, СНД і Чэхіі – астатняя Еўропа, Амерыка, Аўстралія, Японія, Кітай. Перамовы бываюць і на англійскай, і на рускай мове. Звычайна кліенты – эмігранты з Расіі. Ад 10 поўны працоўны дзень, але бывае, што і ўначы даводзіцца працаваць – у той жа Амерыцы ў гэты час дзень. Мара наконт працы – каб узялі ў якое-небудзь выдавецтва і далі перакладаць мастацкія кнігі з англійскай на рускую ці беларускую. З задавальненнем пераклала б добрае фэнтэзі і добрыя казкі, магчыма, нешта з дэтэктываў. Была думка перакласці ўрывак з Толкіена і падсунуць выдавецтву, а раптам прайшло б. А яшчэ мару зарабляць сваёй творчасцю. Цяпер чытаць атрымліваецца, калі стаю на прыпынку, крыху перад сном, калі п'ю чай і снедаю. Хочацца цэлы дзень праваляцца з чымсьці смачненькім і чытаць, але пакуль так не атрымоўваецца.

Акрамя сямейных абавязкаў і працы, Маша паспявае ствараць. Летась выдала кнігу "Таямніца", паспрабавала сябе ў перакладах вершаў на беларускую мову.

– Падцягнуць успрыманне англійскай на слых мне вельмі дапамог "Гары Потэр". Гэта выдатны варыянт для такой мэты: пачынаецца з простай, нават дзіцячай мовы, а пасля і персанажы, і мова расце. Сем аўдыёкніг як праслухала, цяпер усё разумею! Насця ўжо чытае другую кнігу з серыі, а Вара пачала першую. Гэта такі кайф, калі заходзіш у дзіцячы, а яны ўдзвюх чытаюць "Гары Потэра", якога так палюбіла я. Вара часам пытаецца, што не зразумела, а Насця прылятае: "Мама, мама, там у кніжцы такоооe было!" А яшчэ ў кнігах шмат памылак, і Насця сядзіць з карэктарам. Кажа: "Мама, тут трэба выправіць, правільна?" – "Правільна" і выпраўляе.

### Як хоча выхаваць дзяцей

– Галоўнае – навучыць думаць сваёй галавой. Чым больш у іх будзе кніг і сустрэч з цікавымі людзьмі, чым больш думак яны пачуюць, тым лепш зразумеюць, што кожны бачыць гэты свет па-свойму. Што няма чорнага і белага, і ў кожнага свая праўда. Калі я навучу іх думаць самастойна, а не выкладваць цытаты з паблікаў "Укантакце", то буду лічыць, што выхавала добра. У дзіцячую я амаль не заходжу – у іх свой, дзіцячы свет. Не тое, каб малодшыя слухаліся Насцю, але ў яе атрымліваецца знайсці падыход і дамаўляцца. Я не кажу, што даглядаць малодшых яе абавязак, але прашу дапамагчы. Калі можа – дапамагае. Часам скардзіцца: "Мама, да мяне лезе Вова, убяры яго" – "Ну куды я яго ўбяру? Гэта і яго пакой. Дамаўляйся". Канешне, чакаем, калі ў новым доме ў кожнага будзе свой пакой. Я і па сабе ведаю, як хочацца мець свой пакой.


Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

● ЯК МЫ ВЫЖЫВАЛІ

# Праз гадзіну, пад'язджаючы да Ушы, бацька ўспомніў, што нечага не хапае... Сына!

## Жыхары рэгіёна пра сваё дзяцінства

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА

**Ну, хто з вас, паважаныя чытачы, не сваволіў у дзяцінстве? Хто не вытвараў такія штукі, пра якія тады было страшна расказаць бацькам, а цяпер, маючы сваіх, думаеш, хоць бы мае такое не ўтварылі. А склаўшы ўсе штукі ў адну, задумваешся пра тое, як дажыў да дарослага жыцця.**

Да Сусветнага дня абароны дзяцей, які адзначаюць 1 чэрвеня, мы падабралі некалькі гісторый у спецыяльную рубрыку "Як мы выжывалі". Магчыма, бацькам яны дапамогуць папярэдзіць няшчасце, а таксама ўзгадаць сябе ў дзяцінстве і часам не караць дзяцей.

Прыгадваючы сваё дзяцінства ў мястэчку Краснае, **Зоя Хруцкая** часам здзіўляецца: як яна ўсё ж дажыла да дарослага жыцця. Дом стаяў на трасе Мінск-Маладзечна, проста на павароце. Перад самымі машынамі мы з сябрамі бегалі па дзесяць разоў на дзень. За домам цякла Уша, на якую мы хадзілі гуляць і летам, і зімой, і ў тонкі лёд. Самі спрабавалі цягаць ваду з калодзежа, варылі ежу на газавай пліце, рыхтавалі хімічныя растваральнікі для збору каларадскіх жукоў. За вёскай былі горкі з дрэвамі на піку, да галінак якіх прымацоўвалі тарзанкі і гойдаліся на іх гадзінамі. Летам мы, дзеці 5-8 год, распальвалі кастры, зімой спускаліся на санках з самых высокіх узвышшаў насамі і лбамі проста ў слупы і дрэвы.

А калі маме не было на каго пакінуць мяне, сядзела з ёй на заводзе, хадзіла між станкоў, спрабавала ціхенька што-небудзь націснуць. Што мы, вясковыя дзеці, толькі не вытваралі, пакуль бацькі былі занятыя агародам, работай. Валасы ўстаюць дыба, калі ўяўляю ў такіх абставінах сваё дзіця.

У маіх знаёмых ёсць таксама гісторыі, з якіх дзіву даешся, як такое магло адбыцца.

### Як хлопчык ехаў у кабіне машыніста

Маладзечанец Антон цяпер малады бацька двух дзяцей. Але ў дзяцінстве ў яго здарыўся выпадак, які і праз 20 год мужчына прыгадвае з крыўдай.

Хлопчыку было 6-7 год, калі тата узяў яго з сабой у Мінск. Ехалі на электрычцы, выканалі патрэбную справу і сабраліся вяртацца ў Маладзечна. Тата пакінуў яго каля вакзала, каб хутчэй схадзіць па білеты. Нагадаў, каб стаяў на адным месцы і нікуды не сыходзіў.

Бацька купіў білеты, сеў на электрычку і паехаў дадому. І толькі больш чым праз гадзіну, пад'язджаючы да станцыі Уша, успомніў, што нечага не хапае... Сына!

Мужчына падняў на ногі ўсю электрычку, выйшаў на Ушы, на вакзале папрасіў звязацца з мінскім вакзалам. А там хлопчыка ўжо знайшлі і спрабавалі дабіцца, куды яго везці. Наступнай электрычкай маленькага Антона пасадзілі ў кабіну да машыніста, і з ім ён ехаў, як самы важны пасажыр.

На Ушы хлопчыка перадалі забыўліваму бацьку. Цяпер, канешне, Антон расказвае пра сваю прыгоду спакойна, але можна толькі здагадвацца, колькі ўсяго перадумаў хлопчык, застаўшыся адзін.



Фота Novayagazeta-ug.ru.

Тата пакінуў хлопчыка каля вакзала, каб хутчэй схадзіць па білеты. Нагадаў, каб стаяў на адным месцы і нікуды не сыходзіў.

### Дазбіраўся ягад да міліцыі

Маладзечанец Андрэй у гадоў шэсць паехаў з бацькамі да сваякоў у іншы горад. У адзін з дзён дзядзька узяў і сваіх дзяцей, і пляменнікаў і павёў у лес па ягады. Дзядзьку вельмі хацелася, каб ягад назбіралі шмат, таму загадаў старацца і не кучкавацца.

Андрэйка паслухмяна збіраў ягады і не заўважыў, як урэшце згубіўся. Пайшоў назад – нікога няма, у іншы бок – зноў нікога. Ужо пачынала цямнець, калі зарумзаны хлопчык выбраўся з лесу. Выйшаў на нейкую вёску, падышоў да аднаго з дамоў і плаааача ва ўвесь голас. Выйшла з дому гаспадыня, здагадалася, што здарылася. Завяла хлопчыка ў дом, пакарміла. Сабралася ўжо пасцель рыхтаваць, куды ж яго весці на ноч гледзячы.

Ажно пачулі, як на вуліцы ездзяць машыны, гавораць міліцыянеры.

– Па цябе, знайшлі ўжо, не плач, – сказала жанчына і адвяла хлопчыка сваякам.

### Небяспечныя "бярозавыя гульні"

У 1960-х гадах вясковая дзятва забаўляла сябе сама. Да гаджэтаў заставалася больш за паўстагоддзя. Бацькі ад цямна да цямна былі занятыя на сельскай гаспадарцы.

Вось і прыдумалі хлопцы на Вілейшчыне сабе забаву. Шукалі бярозку з тонкім ствалом, залазілі на яе і абедзвюма рукамі хапаліся за верхавіну.

Пад цяжарам бяроза схілялася, а дзіця паступова апускалася на зямлю. Па словах дзяцей 1960-х, адчуванні былі вельмі прыемныя.

Але шанцавала не ўсім. Аднойчы ільянскі хлопчык Мікалай залез на чарговую бярозу, звыкла ўхапіўся за верхавіну і... Разам з гэтай самай верхавінай у руках з высокай бярозы паляцеў на зямлю. Верхавіна, як высветлілася, была гнілая.

Хлопец вельмі моцна стукнуўся галавой, ішла кроў. Але шукаць у бацькоў шкадавання ён не пабег. Ведаў: за такія гульні бацька яшчэ дабавіць "кухталёў".

На дапамогу прыйшлі верныя сябры – такія ж хлопчыкі-свавольнікі. Адзін з іх скраў у маці цадзілку для малака. Ёй заматалі галаву пацярпеламу.

**Цэлы дзень Мікола не трапляўся бацькам на вочы. Так атрымалася затаіць траўму і не атрымаць за небяспечныя гульні.**

### Папрыгажэлі так, што ледзьве вочы не вылезлі

Віляйчанка **Таццяна Адамовіч** разам са стрыечнымі сёстрамі Галяй і Кацяй шмат часу бавілі ў бабулі і дзядулі ў вёсцы Заброддзе на Вілейшчыне. Калі летам заняткаў было хоць адбаўляй, дня не хапала, каб усё перарабіць, то зімой часам сумавалі.

– Аднойчы, прыехаўшы на выхадныя, проста не ведалі, куды сябе дзець, – узгадвае Таццяна. – У зале дарослыя глядзяць тэлевізар, у прыхожай дзядуля чытае газету, прыйшлося гуляць у спальні. А там жа толькі ложкі, печ і ўсё месца – не разгуляешся. Вырашылі гуляць у цырульню: рабілі адзін аднаму прычоску, улезлі ў шафу з адзеннем, у якое апрануліся. Для поўнага шчасця трэба было памазацца нейкім крэмам, каб папрыгажэць. Крэм хутка знайшоўся – ляжаў на падваконні каля дзядулевага ложка. Самае прыцягальнае ў ім было тое, што водар быў проста неверагодны.

Першай намазала на нос крэм Таня, пасля Каця. Вынік быў неймаверна хуткім: нос і вочы пачало пячы, з вачэй паліліся слёзы.

– Пякло так, што плакаць хацелася, але і без таго слёзы цяклі, – расказвае Таня. – Але баяліся расказаць бацькам, каб тыя не крычалі. Ціхенька залезлі пад ложак, у вёсцы яны з высокімі ножкамі, сядзелі, плакалі. Добра, што другая мая сястра Галя не паспела намазацца. Яна ратавала: налівала ў кубачак вады і прыносіла нам. Акунеш руку ў халодную ваду, памажаш нос і вочы – дапамагае. Праз хвіліну зноў слёзы, зноў па халодную ваду – і так каля дзвюх гадзін.

Як толькі дарослыя заходзілі ў пакой і пыталіся, што дзяўчаты робяць, адказвалі, што ў лялькі гуляюць пад ложкам. Але бацькі здагадаліся, калі сядзяць ціхенька і не дыхаюць – нешта ўтварылі, папрасілі вылезці з-пад ложка і паказацца.

– Вылазім, а ў мяне з Кацяй насы і вочы чырвоныя, – усміхаецца Таня. – Прыйшлося расказаць, што нарабілі. Бацькі і не лаялі, бо самі перапалохаліся, як вочы не пашкодзілі.

Аказалася, што дзяўчаты намазаліся пякучай маззю для спіны. У гэтым выпадку дарослыя ўбачылі толькі адзін станоўчы момант – у Каці прайшоў гаймарыт, з якім працяглы час змагаліся, але нічога не дапамагала.

**Падрыхтавалі Зоя ХРУЦКАЯ, Аксана ЯРАШОНАК, Галіна СУДНІКОВІЧ.**

● ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

## Як паставіць мат

Усім прывітанне. Гульня ў шахматы з'яўляецца часткай сусветнай культуры. Ваша няўменне, няведанне асноў і правілаў шахматнай гульні ў мінімальным аб'ёме свет не пераверне. Гэта няўменне проста звужвае вашу эрудыцыю і разуменне асноў жыцця ў цэлым.

Уменне гуляць у шахматы карыснае ў любым узросце, нават сталым людзям. А прафесіі, дзе гэта ўменне выручае і дапамагае прымаць рашэнні, і пералічваць доўга.

Зрэшты, кожны сам прымае рашэнне аб сваіх перавагах і шляхах самаразвіцця.

### Стадыі шахматнай партыі

Сёння мы раскажам крыху пра стадыі шахматнай гульні. Шахматная партыя, як і само чалавечае жыццё, умоўна дзеліцца на тры стадыі. Па-беларуску: пачатак, сярэдзіна і канец.

Па-шахматнаму: дэбют, мітэльшпіль і эндшпіль. Сёння мы разбяром эндшпільную шахматную пазіцыю з кніжкі "Мат у адзін ход" №7. Саму кнігу можна набыць у крамах "Белкнігі" за 2,15 рубля або выйграць у рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты" праз удзел у конкурсах.

Эндшпіль у шахматах не заўсёды абавязковы. Вы можаце атрымаць або паставіць мат у дэбюце – пачатку шахматнай партыі, і да эндшпілю не дажывяце. Гэта як і ў жыцці. А калі шахматныя сапернікі прыкладна роўныя, яны паслядоўна змагаюцца, фігуры планамерна мяняюцца, і ў выніку ў вас засталося ўсяго на адну пешку больш, чым у саперніка. Быццам бы гэтага мала?

Аднак у шахматах існуе правіла: калі пешка рухаецца наперад і праходзіць да восьмай вертыкалі, то ператвараецца ў любую фігуру па жаданні гульца.

Звычайна гэтай фігурай становіцца ферзь. Ферзь – самая моцная шахматная фігура. І на гэтым партыя не заканчваецца. Кропкай у шахматнай партыі з'яўляецца мат.

Цікава часам назіраць, як пачаткоўцы-шахматысты не могуць паставіць мат у эндшпілі. Вось сёння і паспрабуем выправіць гэта няўменне.

### Мат у эндшпілі

На дошцы засталіся: белы кароль на полі f3, белы ферзь на полі g1 і чорны кароль на полі h4.

Разбяром магчымыя хады. Пачнём з чорнага караля.

Выбар ў чорнага караля невялікі. Ён прыціснуты да краю дошкі. Яго атачылі белыя фігуры і жадаюць ужо матаваць. Магчымыя толькі два хады: Крh3 і Крh5. Пераходзіць на лінію g яму не дае белы ферзь, які стаіць на полі g1 і кантралюе ўсю вертыкаль g.

У выпадку ходу чорных яны павінны ўцякаць ад белага караля, і правільны ход – Крh5, пазбягаючы мата.

У белых выбар больш багаты. Яны могуць хадзіць і каралём, і ферзем. Магчымыя хады каралём: Крg2, f4, f2, e2, e3, e4. Звярніце ўвагу, што ёсць правіла – кароль з каралём не сустракаюцца. Таму і белы кароль не можа пайсці на палі: g3 і g4, дзе сустрэнецца з чорным каралём.

Белы ферзь мае яшчэ больш хадоў. Таму што гэта – ферзь! Ферзь у шахматах самая моцная фігура, але кароль – галоўная. Гэта як і ў жыцці: прэзідэнт можа быць і старым, і хворым, але ён больш галоўны за целаахоўнікаў, якія могуць і павінны быць здаровымі і дужымі.

Белы ферзь можа пахадзіць на палі па гарызанталі і вертыкалі: h1, f1, e1, d1, c1, b1, a1, g2, g3, g4, g5, g6, g7, g8. Таксама па дыяганалях: h2, f2, e3, d4, c5, b6, a7.

Дзе тут мат? Вось вам і вырашаць!

Глядзіце, нават калі вы ўвогуле нічога не петрыце ў шахматах, але ў вас ёсць шахматная дошка – смела расстаўляйце фігуры, згодна з расстаноўкай на дыяграме, перачытвайце артыкул, знаходзьце палі і перамяшчайце фігуры. Можаце гэта рабіць са сваім дзіцем. З часам у вас усё атрымаецца. Поспеху!

**Віталь КАЧАТКОЎ.**

**Ад рэдакцыі. Віталь Качаткоў – майстар спорту па шахматах Беларусі. У мінулых нумарах рэдакцыя памылілася і назвала Віталя Качаткова майстрам спорту міжнароднага класа. Просім прабачэння ў чытачоў і Віталя Качаткова.**




**Задача №7 з кнігі Віталя Качаткова "Мат у адзін ход". Калі вы дашляце адказ да 7 чэрвеня на адрас regionnews@rh.by, то паўдзельнічаеце ў розыгрышы кнігі. Правільны адказ на задачу №4 з "РГ" №21 – Ф:f7#.**

# Лепшыя футбалісты лепшага горада: Ігар Талькоўскі

МАЛАДЗЕЧНА

**З гэтага нумара мы пачынаем знаёміць нашых чытачоў і чытачак з футбалістамі каманды "Маладзечна-ДЮСШ-4".**



Наведвальнасць стадыёна б'е рэкорды, а хто тыя людзі, што дораць нам спартыўнае свята, мы не ведаем.

"Рэгіянальная газета" вырашыла выправіць гэту недарэчнасць.

За тое, што артыкулы аб'яднаныя назвай "Лепшыя футбалісты лепшага горада", трэба дзякаваць фанацкаму сектару каманды.

Менавіта ў іх адна з самых прыгожых крычалак гучыць, як "Лепшы горад лепшай краіны", а значыць, і футбалісты ў такім горадзе, у такой камандзе таксама найлепшыя.

Гэта зусім не значыць, што футбалісты Смаргоні ці Вілейкі горшыя, але ж фанацкая крычалка падманваць не будзе.

Першы герой рубрыкі – нападаючы каманды **Ігар Талькоўскі.**

Ігару 24 гады. Па выніках сезона 2016 года ён стаў лепшым бамбардзірам года.

А пачынаў Ігар свой шлях да футбола, як і шмат іншых хлопчыкаў.

Бацька Ігара быў футбалістам, і ад самага ранняга дзяцінства менавіта тата стаў вучыць Ігара азам футбола.

– Канешне, былі і маміны спробы адправіць мяне ў музычную, мастацкую школы, на танцы і гэтак далей. Але я ўпарта вяртаўся да футбола.

Першы забіты гол Ігара быў таксама недзе ў дварах 12 школы, дзе яго трэніраваў першы трэнер і сябар бацькі **Андрэй Радкевіч**.

– Футбольныя матчы былі ў нас, хлапчукоў, кожны дзень да таго моманту, пакуль не збегаеш дамоў "вынесці папіць", і цябе ўжо не выпускалі.

А потым была дзіцячая спартыўная школа, першыя перамогі і паразы. Ігар Талькоўскі – выпускнік шостай гімназіі, затым скончыў гандлёва-эканамічны каледж, адслужыў у войску.

Сёння ўвесь час Ігара, калі ён не падманвае, займае футбол.

Прычым не толькі як гульца.

– Я люблю і глядзець футбол, стараюся не прапускаць гульні маёй любімай каманды і топавыя матчы з пяці чэмпіянатаў Еўропы. Я заўзятар "Чырвоных Д'яблаў". Гэта знакаміты клуб з Манчэстэра. Сачу за яго поспехамі ўжо шмат гадоў.

Сваю сённяшнюю каманду Ігар называе "вясёлкавай".

> **– Усе хлопцы добрыя і вясёлыя, і атмасфера на трэніроўках у нас вясёлкавая.**

А ў прыкметы, наконт таго, што трэба або не трэба рабіць перад адказнымі гульнямі, Ігар не верыць.

– Калі я ўжо не веру ў чорнага ката, то няма сэнсу замарочвацца і наконт іншых прыкметаў.

Не сакрэт, што камандзе "Маладзечна-ДЮСШ-4" сёлета прадракаюць выхад у першую лігу.

А Ігар Талькоўскі ставіцца да гэтага па-філасофску.

– Трэба спачатку паказаць 100% вынік. Усё ў нашых нагах.

### Спрачаемся, што вы не ведалі:

- **У Ігара ёсць малодшая сястра, якой цяпер 13 гадоў.**
- **Нумар 7 у Ігара на футболцы з'явіўся зусім нядаўна. І гэтая лічба для яго нічога не значыць. А ўсё дзяцінства Ігар адгуляў пад нумарам 11.**
- **Лепш за ўсё, прызнаецца Ігар, у яго атрымоўваецца кіраваць машынай.**
- **У Ігара ёсць мянушка. У камандзе яго называюць Толік ці Тэл.**



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-
566-26-99
(працоўны)



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Шумны публічны поспех.
3. Плата за перавозку грузу па вадзе.
4. Кім працуе Сяргей Дараховіч у ФК "ДЮСШ-4" (Маладзечна)?
6. Мужчынскі галаўны ўбор у мусульман.
8. Імя паэта, як жыў у Ракуцёўшчыне Маладзечанскага раёна.
9. Корпус лятальнага апарата.
10. Медыцынскі інструмент, цыліндрык з поршнем.
11. Беларуская назва ракі Нярыс?
14. Перадача мяча партнёру.
15. Палкавы сцяг, часам сцяг кіраўніка дзяржавы.
17. Тое, што спарахнела.
20. Комплекс адзення, характэрны для нейкага рэгіёна.
22. Прагны да нажывы.
23. Удары капытоў.
24. Які слаба расце, хілы – пра расліны.
27. З яе робяць манку.
28. Мастацкае ўпрыгажэнне сцен, столі, прадметаў побыту.
31. Мера гарэлкі, 1/10 частка вядра.
33. Тое, што і жабры.
35. Кандрат Крапіва: "Каб ... засланіць, вушэй аслiных мала".
36. Памяшканне для сабак.
37. Зубчатае кола, якое перадае рух.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Чорны грыб, што расце на бярозе.
3. Поўная сіла музычнага гуку.
5. Аб вельмі прыгожым, вельмі цікавым, найлепшым (размоўнае).
7. У гэты момант.
9. Група сяброў якой-небудзь партыі ў парламенце ці грамадскай арганізацыі.
12. Вельмі тонкі металічны ліст.
13. Ашуканец, несумленны чалавек.
16. Кароткі сухі гук ад стрэлу.
18. Машына для рэзкі саломы на корм жывёле.
19. Форма кіравання, пры якой улада належыць духавенству.
20. Сядзенне з адтулінай у сярэдзіне.
21. Колькасць малака, атрыманага за пэўны перыяд часу.
22. Прамая, якая злучае дзве кропкі акружнасці.
23. У вершаскладанні: паўза, якая падзяляе радок на часткі.
25. Назва групы мінералаў, якія пры ўдары расколваюцца на кавалкі геаметрычна правільнай формы.
26. Тое, што і паўзун.
29. Спачатку.
30. Ураган вялікай разбуральнай сілы.
32. Рухавік, які пераўтварае кінетычную энергію вады, пары, газу ў механічную работу.
34. Сукупнасць жывых арганізмаў і іх навакольнага асяроддзя, узаемазвязаных абменам рэчывамі.
37. Кіслая трава, з якой вараць суп.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №20.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** Чалавекам. 3. Машынапіс. 4. Папірус. 5. Аскома. 6. Цыкута. 10. Габарыт. 11. Барсук. 12. Ганец. 13. Грошы. 14. Картка. 16. Леднікі. 17. Вадуц. 18. Атава. 21. Атлас. 22. Заваруха. 26. Бойлер. 27. Бемоль. 28. Ёўня. 30. Курорт. 31. Аўдзей. 33. Брызент. 35. Імідж.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Камерыстка. 7. Оксна. 8. Балагол. 9. Астравец. 10. Гурток. 11. Бітон. 13. Гумар. 15. Блыха. 19. Гараскоп. 20. Інвестыцыі. 22. Залвіца. 23. Мікроб. 24. Неба. 25. Збаёдаць. 29. Мёры. 30. Казённы. 32. Рабамі. 34. Пасынкі.

## ГАРАСКОП 2-8 ЧЭРВЕНЯ



**АВЕН.** Перыяд спакойны, ніякіх сур'ёзных перамен ці новых важных падзей. Выступаць арбітрам у чужой спрэчцы не варта, усё, што вы можаце зрабіць, – гэта даць параду, каб прымірыць людзей.



**ЦЯЛЕЦ.** Удзяліце ўвагу сваім родным. У сярэдзіне тыдня ўзнікне мноства розных клопатаў, нявырашаных спраў, якія запатрабуюць вашай увагі.



**БЛІЗНЯТЫ.** Старайцеся сябе стрымліваць і не ўпадаць у крайнасці, бо вам то не захочацца нічога рабіць, то будзеце шкадаваць сябе, то крыўдзіцца на ўвесь свет, то, наадварот, спрабаваць горы зрушыць. Ад такога дысбалансу ўзнікнуць розныя перашкоды на вашым шляху.



**РАК.** Спрыяльны перыяд. Нейкіх асаблівых здзяйсненняў чакаць не даводзіцца, але і мірнае цячэнне жыцця ў прыемнай абстаноўцы таксама вельмі добрая падзея, хоць і не вельмі заўважная. У фінансавай сферы чакаюцца паступленні.



**ЛЕЎ.** Вы можаце быць залішне строгія і патрабавальныя да навакольных. Магчыма, у сваёй ацэнцы вы і будзеце мець рацыю, але не ўсім будзе прыемна, таму вы рызыкуеце застацца ў адзіноце. А ў выніку і зусім будзеце выглядаць вінаватымі. Але сітуацыя наладзіцца.



**ДЗЕВА.** Калі вы адчуваеце, што зусім не ведаеце, як менавіта трэба дзейнічаць далей – вазьміце перапынак, пабудзьце сам-насам, і вы знойдзеце правільны шлях.



**ШАЛІ.** Перавярніце сваё жыццё, хоць бы на дзень ці на імгненне, дазвольце сабе дзейнічаць не так, як звычайна, і перад вамі адкрыецца новы шлях, новы сэнс жыцця.



**СКАРПІЁН.** Дні спрыяльныя, асабліва ў пытаннях рамантыкі. Вы маеце ўсе шансы абзавесціся новым знаёмствам, якое будзе вельмі перспектыўным у далейшым. Добры перыяд і для вырашэння фінансавых пытанняў, асабліва калі ад вас запатрабуецца актыўны ўдзел і калі вы плануеце пачаць штосьці новае. Не будзьце толькі нястрыманыя і залішне агрэсіўныя, бо гэта можа дрэнна адбіцца на вашым эмацыйным стане, а таксама на адносінах з блізкімі.



**СТРАЛЕЦ.** Вы зможаце радавацца, назіраючы за тым, як лёгка і спрыяльна развіваюцца падзеі вакол вас, як усё складваецца менавіта так, як вы хацелі, без якога-небудзь умяшання з вашага боку. У гэты час добра вучыцца мудрасці ў жыцця.



**КАЗЯРОГ.** Вы будзеце адчуваць упэўненасць у сваіх сілах, і гэта ўпэўненасць перадасца людзям, якія вас акружаюць. Праявяцца вашы лідарскія якасці і з'явіцца магчымасць рэальна ўплываць на падзеі вакол вас. Вы зможаце многага дабіцца, калі, канешне, прыкладзяце да гэтага адпаведныя намаганні.



**ВАДАЛЕЙ.** Перыяд новых рамантычных знаёмстваў, розных любоўных інтрыг. Праўда, вашы адносіны не заўсёды будуць завязаныя на пачуццях. У некаторых з іх ёсць матэрыяльная зацікаўленасць. Сярод усіх знаёмстваў важна будзе разгледзець менавіта тую кандыдатуру, з якой у вас супадуць інтарэсы.



**РЫБЫ.** Вас наведае святочна-вясёлы настрой. Зоркі раяць заняцца домам – наводзіць парадак, купляць прадметы інтэр'еру і ўвогуле паляпшаць сваю жылую прастору. А можна ісці ў адпачынак, набірацца новых сіл, уражанняў, пачуццяў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | | 5 | | | | 3 | | 4 |
| | | 8 | 1 | | | 7 | | 9 |
| 2 | | | | | | | | |
| | 6 | | 7 | | 2 | | 9 | |
| | | 1 | | | | 4 | | |
| | 5 | | 4 | | 9 | | 1 | |
| | | | | | | | | 7 |
| 5 | | 9 | | | 4 | 1 | | |
| 1 | | 3 | | | | 6 | | 2 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



## Якія мерапрыемствы не варта прапусціць на гэтым тыдні?

МАЛАДЗЕЧНА

**Акрамя кінатэатра і канцэртных пляцовак, на тыдні здараюцца мерапрыемствы, пра якія вы нават не чулі.**

Мы паспрабуем вам дапамагчы з выбарам тых мерапрыемстваў, якія вартыя вашай увагі.

На гэтым тыдні маладзечанцам, ды і гасцям горада выбіраць асабліва не прыходзіцца. У Маладзечне гудзе фестываль.

Але калі вы не збіраецеся на адкрыццё ці закрыццё фестывалю ў амфітэатры, то, магчыма, вам даспадобы прыйдзецца шпацыр ноччу ў парк, каб пабачыць феерверк.

Ён адбудзецца 2 чэрвеня пасля заканчэння канцэрта.

А ў суботу хоць ты разарвіся! Гэта і спартыўнае свята ў парку, якое пачнецца ў 9:00, і паэтычная гасцёўня ў Палацы культуры. Яе пачатак у 14:00.

І мерапрыемства для малодых і дзёрзкіх на Цэнтральнай плошчы, якое таксама пачнецца ў гэты час – у 14:00.

Атрымлівайце асалоду ад фестывалю, а мы пакуль пазбіраем для вас цікавыя мерапрыемствы рэгіёна, якія варта будзе наведаць праз тыдзень.

**Аддзел інфармацыі.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 3 чэрвеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +8 / +15 | | +6 / +13 | | +7 / +21 | | +16 / +21 | |
| | 738 | ↙ 5 | 744 | ↙ 3 | 743 | ↑ 7 | 740 | ↑ 1 |
| Вільня | +5 / +15 | | +3 / +12 | | +5 / +21 | | +12 / +20 | |
| | 748 | ↙ 7 | 754 | ↙ 2 | 749 | ↑ 7 | 749 | ← 3 |

Тэмпература Вобланачаць паветра ападкі / Ціск (мм рт. сл.) Хуткасць ветра м/с / Усход захад па Мала-дзечне

Усход 4.42, Захад 21.39, Даўжыня дня 16.57

Усход 14.49, Захад 2.43, Квадра 2




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

НАРАЧ

Мінімальная тэмпература +2,1 °С у 1978 годзе
Максімальная тэмпература +29,1 °С у 2010 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 17,1 мм у 1977годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Памятаеце той "гарбаты" "Запарожац", на якім ездзіла тройка Баязлівец-Балбес-Бывалы ў фільме "Аперацыя Ы"? А ці ведалі вы, што маладзечанец ездзіць да гэтага часу на такім жа? Праз тыдзень завітаем да яго ў госці і пракоцімся на рарытэце.**

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Настаўнік кажа сябру:

– У гэтай школе проста невыносна працаваць. Настаўнік баіцца дырэктара, дырэктар – інспектара, інспектар – праверкі з Міністэрства адукацыі, Міністэрства адукацыі – бацькоў. І толькі дзеці нікога не баяцца.

***

– Дзяўчынка, ты школьніца?

– Не. Я садыстка. У садок хаджу.

***

Сын прыходзіць са школы з двойкай.

– Тата, толькі не хвалюйся.

– Добра. Толькі не крыўдуй.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Успомніце сваю школьную двойку



**Алена Апанасовіч, цырульніца:**

– Памятаю самую першую двойку. У нулявым класе я ўжо вельмі добра чытала, але маленькая была няўважлівай. Адно слова прачытала няправільна. Настаўніца спыніла мяне і пачала патрабаваць, каб я прачытала правільна. А я была такая ўпартая: бачыла, што няправільна, а ўсё адно чытала па-свойму. За ўпартасць мне паставілі двойку.



**Юры Цыганкоў, фермер:**

– У самога цікавых гісторый пра адзнакі няма. Раскажу пра сябра-аднакласніка. І не пра двойку, а пра адзінку. Сябру паставілі ў дзённіку адзінку і побач напісалі "ад.". А ён перарабіў адзінку на чацвёрку. Вечарам бацька разгарнуў дзённік: "О! Чацвёрку атрымаў". А тады пытаецца, што такое "ад.". Сябар адказаў, што "адзінагалосна".



**Таццяна Жданько, спецыяліст па мытным дэклараванні:**

– Я – медалістка. Аднак двойку мела. Атрымала яе за тое, што на хіміі падказвала лепшай сяброўцы. Падказвала і не бачыла, што ззаду стаіць настаўніца. Яна штурхнула мяне ў спіну вялікай указкай, зрабіла заўвагу і паставіла два. Але на адзнакі ў атэстаце гэта ніяк не паўплывала.



**Аляксандр Вышынскі, менеджар:**

– Памятаю двойку па фізкультуры. Недалёка ад школьнага стадыёна ў нас працякаў шыракаваты ручай. Мы ў нешта гулялі, і мячык заляцеў у ваду. Настаўніку не сказалі, палезлі даставаць. Ніхто не ўтапіўся, але намачыліся добра. За гэта ўсе і атрымалі двойкі.



**Марыя Крыцкая, настаўніца музыкі:**

– Я вучылася па дзесяцібальнай сістэме. Каб атрымлівала двойкі, не памятаю. Чацвёркі, праўда, былі. Асабліва не даваліся фізіка і матэматыка. Цяпер сама працую настаўніцай у музычнай школе. З вучнямі да двоек у нас пакуль недаходзіла.



**Ігар Паўловіч, вучань:**

– На ўроку англійскай мовы аднакласнік адказаў няправільна. Некаторыя дзеці засмяяліся. І я таксама. За тое, што мы смяёмся з сябра, настаўніца паставіла нам двойкі.



**Алена Шульжыцкая, прадавец:**

– Вучылася я нядрэнна. Адзнакі былі розныя. Асабліва запомнілася адзінка. Яе мне паставілі за тое, што дала спісаць аднакласніку кантрольную па алгебры.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).

№22 (1153) 2.06.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330/190 ад 30.04.2004 №93.
Зак.516. Падпісана ў друк у 9.00 1.06.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.
Тэл.: (80176) 53-78-04 (рэклама, факс), 53-78-05 (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), 53-78-06 (журналісты), (8029) 573-28-47, 676-84-20. E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.